PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 12 (2184) Год XLIII Беласток 22 сакавіка 1998 г. Цана 1 зл.

# Беларускія сны пра свабоду

Яўген Мірановіч

Пасля лютаўскай рэвалюцыі ў Расіі ўсе народы імперыі пачалі шукаць для сябе формы дзяржаўнага існавання на будучыню. Сярод беларусаў узнікла ці аднавіла дзейнасць шмат арганізацый, якія мелі розныя меркаванні наконт уладкавання свайго нацыянальнага жыцця. Найбольш уплывовая партыя Беларуская сацыялістычная грамада мела свае цэнтры ў Менску, Петраградзе, Бабруйску, Смаленску, Віцебску і налічвала каля 10 тысяч членаў. Найбольш радыкальныя дзеячы тагачаснага беларускага руху не ставілі аднак далей ідучых прапановаў чым аўтаномія Беларусі ў рамках дэмакратычнай федэратыўнай расейскай рэспублікі. У сакавіку 1917 года адбыўся I З'езд беларускіх партый і арганізацый, які выбраў свой выканаўчы орган у выглядзе Беларускага выканаўчага камітэта. Яго старшынёй стаў памешчык Раман Скірмунт. У красавіку дэлегацыя Камітэта падалася ў Петраград прадставіць Тымчасоваму ураду Расеі пастулат аўтаноміі для Беларусі. Гэтак званыя дэмакратычныя ўлады Расеі, аднак, так як раней царская, не прызналі беларусаў як нацыю і адмовіліся гаварыць са Скірмунтам на гэту тэму.



Летам 1917 года ў Менску, так як і ў іншых гарадах імперыі, панавала рэвалюцыйная атмасфера. Пад уплывам бальшавіцкай дэмагогіі апынулася шмат дзеячаў беларускага нацыянальнага руху. Аднак для большасці прынцып аўтаноміі ставіўся ўжо як мінімум беларускіх нацыянальных пастулатаў. У кастрычніку, лістападзе і снежні адбываліся шматлікія з'езды беларускіх вайскоўцаў, прымаліся пастановы аб арганізацыі беларускіх фарміраванняў у расейскай арміі, дэклараваласа падтрымка для ўзніклай у кастрычніку Вялікай беларускай рады, як нацыянальнага прадстаўніцтва беларусаў.

Бальшавіцкі пераварот на Беларусі быў праігнараваны беларускімі палітыкамі. Успрынялі яго як чарговую змену сярод расейскай эліты ўлады. Адначасова пераваротам кіравалі ў Менску людзі звонку, якія апынуліся тут зусім выпадкова — Вільгельм Кнорын, Карл Ландэр, Аляксандр Мяснікян, Міхаіл Фрунзе. Бальшавікі спачатку не перашкаджалі арганізаваць беларускі рух, а беларускія дзеячы ўспрымалі іх як легальных пераймальнікаў расейскай улады і партнёраў для далейшых размоваў. За згодай народнага камісара па справах нацыянальнасцей Іосіфа Сталіна Вялікая беларуская рада склікала на 5 снежня 1917 г. I Усебеларускі з'езд. Да 14 снежня зарэгістравалася 1872 дэлегаты ад партый, прафсаюзаў, павятовых і гмінных самаўрадаў, беларускіх вайсковых фарміраванняў, паасобных гарадоў. Дамінавалі афіцэры, настаўнікі і ўраднікі, найчасцей сялянскага паходжання. Некалькі дзён трывалі нарады над апрацоўкай дакументаў З'езду, лідэры паасобных партый і арганізацый чыталі даклады па гісторыі і сучасным становішчы Беларусі. Большасць дэлегатаў была згодна з асноўнай мэтай — стварэннем аўтаномнай беларускай дзяржаўнасці ў межах Расіі. 17 снежня З'езд прыняў пастанову аб стварэнні беларускай савецкай сістэмы ўлады на Беларусі. Дзеля гэтага была выбрана Усебеларуская рада сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэлегатаў, якая атрымала паўнамоцтвы тымчасовага беларускага ўрада, падпарадкоўвалася аднак бальшавіцкай петраградскай Радзе рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэлегатаў. Гэтага самага дня мінскія бальшавікі — Мяснікян, Кнорын, Ландэр — кінулі на з'езд падпарадкаваныя сабе фарміраванні расейскай арміі. Яны, як і г.зв. расейскія дэмакраты, а раней царскія ўлады, не прызнавалі беларусам права на самавызначэнне. Не дазволілі нават стварыць беларусам сваю савецкую ўладу. Мела яна існаваць выключна ў выглядзе накінутай азіяцкай сістэмы. Бальшавікі, якія прывалакліся на Беларусь разам з расейскай арміяй, не думалі дзяліцца ўладай з беларусамі, таму беларусам не было іншага выхаду як імкнуцца стварыць зусім незалежную дзяржаву.

З'езд, пакуль яго разагналі салдаты Мяснікяна і Кнорына, паспеў яшчэ выбраць Раду, якая стала легітымным прадстаўніцтвам беларускага народа. 18 снежня Рада выбрала Выканаўчы камітэт, які ўзначаліў Язэп Варонка. У такі спосаб заіснавалі ў Менску як бы два ўрады: легальны, акупацыйны — бальшавіцкі і канспірацыйны — беларускі. У лютым 1918 года памяняліся акупанты. На працягу некалькіх дзён немцы занялі амаль цэлую Беларусь. Не прызналі яны ўрада Язэпа Варонкі як палітычнага суб'екта, аднак не перашкаджалі беларускім дзеячам арганізаваць грамадска-культурнае жыццё на Беларусі. Забаранялі толькі арганізаваць вайсковыя і паліцыйныя фарміраванні. Не цікавіла іх ніякая беларуская дзяржаўнасць. Тэрыторыю Беларусі лічылі часткай Расеі, на якой праводзілі канфіскаты ўсялякай маёмасці.

[працяг ☞ 4]

## У нумары

# Мы прачыталі

*Przestępczość zorganizowana w Polsce jest we wczesnym, lecz już groźnym stadium rozwoju. Prognozując jej stan zagrożenia należy przyjąć, że postępować będzie zacieśnianie się współpracy polskich grup przestępczych ze strukturami międzynarodowymi, a także penetracja naszego kraju przez grupy przestępcze cudzoziemskie, wielonarodowościowe lub wywodzące się z mniejszości narodowych,* — прагназуе польская паліцыя.

*Polityka, nr 9*

Гэта ўжо нейкае маньяцтва, шызафрэнія, паранойя. Нацыянальныя меншасці пастаўлены на адным узроўні з крымінальным асяроддзем!

* * *

*Nie należy obawiać się wariantu białoruskiego w polityce Ukrainy. Miński model, który nie zasługuje na miano białoruskiego, a raczej na określenie dyktatury Łukaszenki stworzył splot specyficznych uwarunkowań: niski stopień świadomości narodowej, brak tradycji państwowych i walki zbrojnej z Moskwą (w przeciwieństwie do Ukraińców), szeroki zasięg rusyfikacji, opóźnienie — w porównaniu z Ukrainą — w wytworzeniu mafijno-klasowych grup interesów związanych z tworzeniem własnej państwowości, niedostateczna pomoc Zachodu jak też Litwy, Polski i Ukrainy jako najważniejszych sąsiadów w okresie powstawania niepodległości białoruskiej,* — піша ўкраінскі гісторык Багдан Асадчук.

*Polityka, nr 9*

* * *

*„Не біце яго, гэта артыст" — знакамітая фраза з аднаго старога фільма. Неактуальная ў сённяшняй Беларусі. Тут цяпер б'юць мастакоў і пісьменнікаў, артыстаў і рэжысёраў. Б'юць з асаблівай жорсткасцю, з асаблівым смакам. Б'юць на мітынгах і шэсцях, б'юць у сваіх кватэрах і майстэрнях. Юры Хашчавацкі быў збіты за тое, што зрабіў праўдзівы, сумленны фільм пра прэзідэнта.*

*Права на волю, н-р 2*

А Юрый Азаронак зрабіў фільм пра апазіцыю і атрымаў некалькі ўзнагарод ад прэзідэнта. Артыст павінен ведаць чаго ад яго патрабуе народ, якога ўвасабленнем з'яўляецца гаспадзін Рыгоравіч.

* * *

*З кожным годам становіцца нас усё менш, але... ці варта школьнікаў вучыць надзяваць прэзервятывы? Калісьці за суткі ў паліклініцы нараджалася 20-25 немаўлят, а зараз ніводнага можа не быць. Цяпер жанчына, якая нараджае — здзяйсняе сапраўдны подзвіг. 80 працэнтаў жанчын, якія паступаюць у гінекалагічную клініку — кураць, ужываюць спіртныя напоі. Каля 40 працэнтаў першародзячых жанчын маюць паўторную цяжарнасць, да гэтага быў аборт. Сумарны каэфіцыент нараджальнасці ў цэлым па краіне не перавышае 1,3, у той час, калі для простага ўзнаўлення насельніцтва гэты паказчык павінен дасягнуць 2,15. Пaціху паміраем!*

*Звязда, н-р 37*

* * *

*У нас у нацыянальнай прэсе існуе вельмі добрая завядзёнка, паводле якой транскрыпцыя шэрагу бальшавіцкіх установаў падаецца без трансфармацыі ў нашу мову — КГБ, НКВД, СССР. Бальшавіцкія слоўныя наватворы ўжываюцца без выкарыстання існуючых у мове адпаведнікаў. Трэба працягваць такую слушную традыцыю і пісаць імёны тых дзейных асобаў палітычнае сцэны нашага краю, якія з'яўляюцца чужароднымі элементамі на нашай зямлі, у іхняй мове альбо на мове іхніх паноў. Гэтак не „прэзідэнт нашай краіны Аляксандр Лукашэнка" а — „президент эрбэ Александр Лукашенко" і адпаведным чынам пісаць імёны такіх дзеячоў як „Титенков", „Шейман", „Заметалин", „Малофеев".*

*Наша ніва, н-р 3*

* * *

*Нельга думаць, што не было сэксуальнага супраціву брэжнеўскаму застою. У адной з менскіх вучэльняў напрыканцы 60-х гадоў узнікла група па вывучэнні ананізму. Група прыйшла да высновы, што і савецкая ўлада і камунізм — усё гэта праявы ананізму.*

*Наша ніва, н-р 4*

* * *

*Sejm szybciutko uchwalił ustawę o eksporcie naszych żołnierzy. Spieszył się, bo musiał zatuszować bezprawną obietnicę używania polskiego wojska w Iraku, złożoną Wielkiemu Bratu przez ministra Geremka. Ponieważ premier Buzek brzydzi się prezydentem Kwaśniewskim, do Sejmu wpłynęły dwa podobne projekty: rządowy i prezydencki. Sejm wybrał wariant najgorszy, bo wyeliminował wniosek aby używanie naszej armii odbywało się po uzyskaniu zgody Sejmu. Parlament RP dokonał samokastracji. Pokazał, iż jest eunuchem na służbie premiera. Natomiast ewangelik Buzek, tańczący przed papieżnikami — to jeden z najzabawniejszych obrazków minionego tygodnia.*

*Nie, nr 9*

* * *

*Wprawdzie lekarze nie zalecają picia alkoholu, ale udowodniono, że małe dawki — dziennie nie przekraczające 30 gram czystego spirytusu — wpływają pozytywnie na nasz organizm, zmniejszając ryzyko choroby wieńcowej. Spożycie alkoholu w ostatnich latach uległo podwojeniu. W Europie i USA pije około 90 procent dorosłych.*

*Kurier Poranny, nr 50*

Паводле нашых ведаў, толькі недзе пад 300 грамаў спірту ажыўляе кружэнне крыві, а прытым знакаміта павышае эфектыўнасць думкі.

# З мінулага тыдня

**Урад**, не зважаючы на заявы сваіх міністраў аб неабходнасці паніжэння цэн візаў, не прыняў ніякіх канкрэтных рашэнняў у справе змякчэння рэжыму перасячэння ўсходняй граніцы грамадзянамі Беларусі і Расеі. У пачатку сакавіка ўрад пазнаёміўся з рапартам Урадавага цэнтра стратэгічных даследаванняў, які пацвердзіў тэзіс аб заламанні кан'юнктуры на польскіх базарах і ў многіх галінах вытворчасці ў выніку ўвядзення новага закона аб іншаземцах. Урад дайшоў да вываду, што неабходным з'яўляецца толькі змякчэнне выканаўчых распараджэнняў, але не самога закона. Увядзенне новых распараджэнняў можа доўжыцца яшчэ некалькі тыдняў.

**Чарговы ліст** ураду паслаў старшыня Агульнапольскага саюза купцоў і работадаўцаў у Беластоку. Напамінае ён, што працы над змякчэннем закона аб іншаземцах вядуцца незразумела доўга, а купцам, у выніку ўшчыльнення ўсходняй граніцы, штодня павялічваюцца страты. „Прадстаўнікі ўрада, здаецца, свядома ігнаруюць наш Саюз, — сцвярджаюць купцы. — З такім становішчам урада пераклікаюцца напішліўя выказванні прадстаўнікоў ваяводскай адміністрацыі, якія толькі раздражняюць нас і паніжаюць падтрымку для ўрада".

**Беларускі бок** у адносінах да грамадзян Польшчы пачаў прымяняць абвостраны рэжым перасячэння дзяржаўнай мяжы. Міністэрства замежных спраў Беларусі паведаміла, што гэтыя меры прыняты ў адказ на ўвядзенне польскім бокам 5 студзеня г.г. новага закона аб іншаземцах.

**Варшаўскія радныя** нанеслі афіцыйны візіт у Менск, дзе сустрэліся з дэпутатамі Менскага гарадскога савета. Падчас сустрэчы старшыня Менгарсавета **Уладзімір Папкоўскі** пазнаёміў польскіх калег са структурай самакіравання ў Беларусі. Ён паведаміў гасцям аб працы сталічнага савета, напрыклад аб прыняцці рашэння аб бясплатным харчаванні сталічных школьнікаў з наступнага навучальнага года, зніжэнні злачыннасці ў Менску ці паляпшэнні паказчыкаў у прамысловым сектары горада.

**Ваяводскі суд** у Варшаве адтэрмінаваў слуханні па справе экстрадыцыі беларускага бізнесмена **Аляксандра Пупейкі** да 14 мая г.г. Афіцыйнай прычынай адтэрміноўкі была непрысутнасць перакладчыка, сапраўднай — старанні Пупейкі атрымаць у Польшчы палітычнае прыстанішча. Да часу разгляду прашэння ў справе атрымання прыстанішча суд можа прыпыніць разгляд экстрадыцыйнай справы. Пупейку, якому інкрымінуецца незаконнае атрыманне крэдыту ў памеры 500 тысяч долараў, у Беларусі пагражае да 15 гадоў турэмнага зняволення. Старшыня Хельсінскага фонду **Марэк Навіцкі** апасаецца, што бізнесмена могуць у Беларусі проста забіць. Заявіў ён таксама, што Фонд рыхтуе рапарт аб парушэнні правоў чалавека ў Беларусі.

**Абаненты** Беластоцкага ваяводства да канца першага квартала г.г. атрымаюць новыя нумары тэлефонаў. У рамках прыстасавання тэлефоннай сеткі да еўрапейскай сістэмы аддзяленне сувязі ў Беластоку пачынае замену шасцізначных нумароў на сямізначныя — цяперашнія нумары, якія пачынаюцца лічбамі 5, 6 і 7 будуць папярэджаны лічбай 6, а лічба 7 папоўніць нумары, якія пачынаюцца з 1, 3 і 4. Восенню з'явіцца новая тэлефонная кніжка. З 1990 года ў Беластоцкім ваяводстве колькасць тэлефонных абанентаў павялічылася ў два разы і сёння складае 157 тысяч карыстальнікаў.



# Весткі з Беларусі

**Прэзідэнцкія сумненні**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сумняваецца ў мэтазгоднасці адкрыцця ў Беларусі пастаяннага прадстаўніцтва АБСЕ. Пра гэтае заявіў ён на прэс-канферэнцыі ў Гродне. Прэзідэнт падкрэсліў, што Беларусь не з'яўляецца гарачай кропкай тыпу Чачні або Таджыкістана і таму пастаяннае знаходжанне ў ёй місіі АБСЕ — немэтазгоднае. У свой час, — нагадаў прэзідэнт, — прадстаўнікі АБСЕ запэўнілі беларускі бок аб тым, што місія гэтай арганізацыі, якая складаецца з невялікай колькасці людзей, будзе перыядычна прыязджаць у Беларусь для вывучэння мясцовага заканадаўства і агульнапалітычнай сітуацыі, а таксама выпрацоўкі рэкамендацыі, накіраваных на паляпшэнне нарматыўнай базы Беларусі.

**Адэкватная рэакцыя**

„Лепшыя перспектывы хацелася б бачыць кіраўніцтву нашай краіны ў вырашэнні польска-беларускіх памежных праблем", — заявіў міністр замежных спраў Іван Антановіч на брыфінгу ў Менску. Размова на гэты конт ішла падчас візіту старшыні АБСЕ Браніслава Герэмка ў Беларусь. Аднак станоўчых вынікаў у вырашэнні памежных праблем, паводле слоў Антановіча, пакуль няма. Таму, калі ўзаемныя дамоўленасці не будуць дасягнуты, беларускі бок адрэагуе адэкватна.

**Самастойнае домаўладанне**

Будучыя жыльцы дома, што будуецца па вуліцы Янкі Маўра ў Менску, правялі сход, на якім аднагалосна вырашылі, што кіраваць сваім домам яны будуць самастойна. Такое права дае ім закон аб сумесным домаўладанні, які нядаўна ўступіў у сілу. Закон сур'ёзна падрывае манаполію дзяржаўных камунальных службаў, якія ўпершыню вымушаны працаваць ва ўмовах канкурэнтнасці. Таварыствы ўласнікаў сумеснага домаўладання створаны ўжо ў пяці гарадах Беларусі. Яны ўзялі на сябе ўсе абавязацельствы па эксплуатацыі і добраўпарадкаванні сваіх дамоў. Падрадчыкі для абслугоўвання жылых будынкаў вызначаюцца на конкурснай аснове. Пры гэтым таварыствы распараджаюцца дзяржаўнымі датацыямі на ўтрыманне і капітальны рамонт жылля.

**Цуд у Брэсце**

Незвычайная з'ява зафіксавана ў Свята-Мікалаеўскай царкве Брэста. Ад іконы свяціцеля Мікалая Цудатворца, якая знаходзіцца ў алтары храма, стала зыходзіць цяпло. Адчуваецца яно пры непасрэдным судакрананні з абразом. Аб гэтым цудзе вернікам паведаміў настаяцель храма айцец Міхаіл. Ікона свяціцеля Мікалая з'явілася ў храме ў 1990 годзе. Царкве яе перадаў Брэсцкі музей выратаваных каштоўнасцей, куды яна паступіла ад пагранічнікаў, якія канфіскавалі ікону на граніцы пры спробе вывазу яе на Захад.

**Дэфіцыт вады**

Жорсткія меры накіраваныя на эканомію пітной вады ўвялі ўлады Пінска. Гараджанам забаронена з 6 да 21 гадзіны паліваць цяпліцы і агароды з гарадскога водаправода і водазаборных калонак. Акрамя таго прыпынена падключэнне да водаправода некаторых прадпрыемстваў. Вадой будуць яны забяспечаны толькі пры ўмове долевага ўдзелу гэтых арганізацый у фінансаванні мерапрыемстваў па развіцці магутнасцей водазабораў. Прыняцце такіх неардынарных рашэнняў выклікана значным дэфіцытам пітной вады ў Пінску (штосутачна не хапае 15-16 тысяч кубічных метраў).

**Азонавая анамалія**

Своеасаблівай анамаліяй назвалі супрацоўнікі Нацыянальнага цэнтра маніторынгу азанасферы зафіксаваны днямі даволі высокі паказчык утрымання азону над тэрыторыяй рэспублікі — 525 адзінак Добсана. На жаль, вобланчасць не дала магчымасці прасачыць далейшае развіццё гэтага цікавага працэсу. Спецыялісты ў пачатку вясны адзначаюць актывізацыю працэсу перабудовы ў стратасферы. Гэта і абумоўлівае высокую зменлівасць агульнага ўтрымання азону. Аднак на працягу апошніх гадоў яно не дасягала такога высокага ўзроўню. У мінулым годзе максімальным быў паказчык 460 адзінак Добсана і, мяркуючы па вопыце, такое рэзкае павышэнне колькасці азону з'яўляецца кароткачасовым.

# У пошуках рынку збыту

**Беластоцкае мяснае прадпрыемства (ПМБ) з'яўляецца адной з самых вялікіх фірмаў Беласточчыны. Свае смачныя ды экалагічныя вырабы прадпрыемства пастаўляе як на ўсходні, так і на заходні рынкі. Беластоцкія мясныя вырабы вядомыя жыхарам Санкт-Пецярбурга, Масквы і... Баку. А французы і амерыканцы ласуюцца нашай кансерваванай лапаткай ды кумпякамі.**

**Шукаючы новага кліента, ПМБ удзельнічае ў шматлікіх гандлёвых мерапрыемствах у Польшчы, Нямеччыне, Расіі. Асабліва паспяхова для ПМБ прайшоў Маскоўскі кірмаш у лютым гэтага года.**

— Сустрэўся я там, — сказаў **Марыюш Барсук**, намеснік дырэктара па справах гандлю і маркетынгу, — са сваімі гандлёвымі партнёрамі. Гаварылі мы пра новыя віды вытворчасці і пастаўак, новыя цэны. Атмасфера была сяброўскай.

***— Які вялікі ваш усходні рынак?***

— Дагэтуль мы пастаўлялі туды на суму 4,5 мільёнаў долараў. Каля 70% паставак трапляе ў Маскву, а там жа перасякаюцца дарогі з усіх бакоў Расіі. Гэта быццам другая Еўропа. Адтуль наш тавар развозіцца цягнікамі і машынамі-халадзільнямі ў іншыя гарады. Маючы на ўвазе далейшае супрацоўніцтва з расійскай метраполіяй, нам спатрэбіцца б там або свой склад, або фірма-пасрэднік. Узяўшы аднак пад увагу кошт пабудовы новага склада, мы абмежаваліся да пошуку фірмы-пасрэдніка. Лічу, што адпаведную дамову заключым яшчэ ў гэтым квартале.

***— Ці шмат канкурэнцыі з'явілася на Маскоўскі кірмаш?***

— Некалькі гадоў таму мы прадстаўлялі ў Маскве адзіную польскую секцыю. Цяпер сітуацыя больш складаная. Мясная прамысловасць у нашай краіне праходзіць своеасаблівы крызіс — лік вытворцаў павялічваецца, а круг пакупнікоў не пашыраецца. Уцякаючы ад банкрутства, фірмы спадзяюцца на ўсходні рынак, дзе шукаюць новага пакупніка. Прабіцца туды вытворцу-пачаткоўцу вельмі цяжка. А кожнаму, хто туды ўсё ж такі прабіўся, трэба прытрымлівацца жалезных прынцыпаў канкурэнцыі. Калі хто паводзіць сябе не так — выпадае. Канкурэнцыя на кірмашы ў гэтым годзе аказалася сапраўды магутнай. Апрача нас свае тавары паказвалі польскія фірмы „Animex", „Konstar", „Śląskpol" ды прадпрыемствы з Элка, Астралэнкі і Чыжэва. Ну і не трэба забываць пра вытворцаў з Бельгіі, Галандыі і Даніі...

***— Ці ўдалося вам нешта падгледзець у заходніх вытворцаў?***

— Асноўнай іх рысай было тое, што ўсе яны супрацоўнічалі з сабою ды выступалі быццам адно вялікае магутнае прадпрыемства. У палякаў гэтага не было — нашы фірмы канкурыравалі паміж сабою.

***— А як выглядаюць справы на айчынным рынку?***

— 2 сакавіка г.г. мы адкрылі тры новыя пункты продажу нашых вырабаў, дзе панізілі цэны. Значыць гэта, што пакупніку не трэба ўжо ехаць за таварам на прадпрыемства. Разнастайны асартымент тавару будзе даступны ў новаарганізаваных складах: у квартале Сланэчны Сток па вул. Упальнай, у Бажантарні па вул. Каперніка і ў квартале Дзесяцініны па вул. Гаёвай.

***— Дзякую за размову.***

Гутарыў Уладзімір Сідарук

# Гайнаўскі бюджэт

26 лютага г.г. адбылося пасяджэнне XXXVI сесіі Гарадской рады ў Гайнаўцы. Радныя прынялі бюджэт на 1998 год.

Спатканне пачалося бурнай дыскусіяй наконт парадку сесіі. Юрыдычна непадрыхтаваны праект пастановы аб продажы, куплі і здаванні ў арэнду грунтаў быў перададзены на дапрацоўку ў камісіях. Радныя і госці слухалі выказванні пра працу старшыні Рады, Гарадской управы, Рэвізійнай камісіі і разглядалі пратэсты жыхароў горада наконт прынятых раней пастаноў. Найбольш гарачую дыскусію выклікалі пратэсты Уладзіміра Парфенюка і Міколы Дзмітрука супраць рашэння Гарадской рады аб стварэнні на іхняй зямлі праваслаўнага могільніка. Спрэчкі тычылісяаднаго сказа ў праекце, які ствараў магчымасць пераўтварэння праваслаўнага могільніка ў шматканфесійны. У прысутнасці настаяцеля праваслаўнага прыхода св. Дзмітрыя Салунскага ў Гайнаўцы а. Юрыя Ацкевіча галасамі 15 радных спрэчны сказ быў выкінуты.

У адстаўку падаўся член гарадской управы Анатоль Ахрыцюк, але яго просьба была адкінута ў галасаванні.

Абмеркаванне гарадскога бюджэту было кароткае. Паявіліся прапановы павялічыць бюджэт Гайнаўскага дома культуры, Асяродка спорту і адпачынку і куплі кніжак для I Агульнаадукацыйнага ліцэя. Усе яны былі адкінуты па просьбе бурмістра горада Ядвігі Рудзінскай-Патэюк, якая прапанавала не выдаткоўваць усе грошы, але павялічыць гарадскі рэзерв. Прынята была прапанова Гарадской управы наконт павелічэння датацыі школам (на спартыўную пляцоўку і агароджу вакол школы н-р 6 і разбудову каналізацыі па вуліцах Мілкоўскага, Доўгай, Бельскай і Варшаўскай). Управа прадбачвала, што грошы на згаданыя інвестыцыі будуць узяты яшчэ з бюджэту 1997 года. Прапанова дырэктара Міколы Бушко наконт павелічэння сродкаў на Дом культуры не была падтрымана. У ходзе дыскусіі выказваліся таксама і жыхары Гайнаўкі. Турбавала іх вырашэнне канкрэтных праблем (рамонт вуліц, падключэнне да каналізацыі ці падаткі).

На расходы ў гайнаўскім бюджэце прадбачана было 18 610 659 злотых, якія Управа горада прапанавала размеркаваць наступным чынам:

— жыллёвая і камунальная гаспадарка — 2 313 тыс. зл.,

— асвета і выхаванне — 8 676 тыс. зл.,

— ахова здароўя — 129 тыс. зл.,

— грамадская апека — 3 289 тыс. зл.,

— фізкультура і спорт — 266 тыс. зл.,

— самаўрадавая і дзяржаўная адміністрацыя — 1 453 тыс. зл.,

— задачы па заказе — 1 866 тыс. зл.

Іншыя сродкі прадбачаны былі на рэзерв і меншыя расходы. Гарадскія радныя амаль аднагалосна прынялі прапанаваны Управай горада бюджэт.

— У нас так прымаюць бюджэт, што прапановы радных не адобраны Управай мала калі праходзяць у час галасавання, — сказаў дырэктар Яўген Сачко.

Аляксей Мароз

# Белавежскія самаўрадаўцы ацэнены

Падыходзіць да канца тэрмін паўнамоцтваў самаўрадаў. Набліжаецца час разлічыцца з дзейнасці за чатыры апошнія гады. У Белавежы першую спробу даць ацэнку мясцовым самаўрадавым уладам зрабіў штомесячнік „Голас Белавежы". Ён апытаў на гэты конт 150 жыхароў гміны. І, вось, чаго даведаўся!

Дзейнасць Рады гміны, паводле пяцібальнай шкалы, жанчыны ацэньваюць на 2,42 бала, мужчыны на 2,32. Войту гміны Станіславу Куявяку жанчыны далі 3,11 бала, мужчыны — 2,80. Яго папярэдніца, Анна Байко, зарабіла адпаведна 3,11 і 3,20 бала. Найлепш жа выпаў былы начальнік гміны — Яўген Паўлючук (3,56 і 3,78 бала).

На пытанне, ці ведаеш, хто ў тваёй выбарчай акрузе з'яўляецца радным, станоўча адказала толькі 43% апытаных, астатнія — значыць, большасць — не ведаюць! Аб тым, што радны добра прадстаўляе інтарэсы жыхароў гміны, выказалася толькі 15% апытаных. Астатнія адмоўна ацанілі працу гмінных абраннікаў. Прыблізна тое самае адказалі людзі на пытанне ці радныя добра дбаюць пра інтарэсы гміны.

Што ж, выходзіць на тое, што цяперашнія ўлады гміны Белавежа сваёй працай не заваявалі прызнання мясцовага насельніцтва. Тут заадно і навука белавежцам: будзьце больш разважнымі ў надыходзячых выбарах. Іншага выхаду няма!

Пётр Байко

# Да ўвагі бацькоў

Канец сакавіка і пачатак красавіка — час запісу дзяцей у прадшколле і школу. У Беластоку бацькі маюць магчымасць пасляць свае малечы на заняткі беларускай мовы, якія вядуцца ў:

**Przedszkole Samorządowe Nr 14 w Białymstoku**
ul. Piłsudskiego 20/4, tel. 421 905

ды ў:

**Szkoła Podstawowa Nr 4 w Białymstoku**
ul. Częstochowska 6a, tel. 422 102

Абедзве асветныя ўстановы знаходзяцца ў цэнтры Беластока ды неперагружаныя яны.

У Прадшколлі № 14 у беларускіх групах дадаткова адбываюцца заняткі танцавальна-музычнага і тэатральнага гурткоў.

# Мясцовасці Чаромхаўскай гміны

**Чаромха** — сядзіба гміннага цэнтра, пасёлак на чыгуначным шляху, з-за чаго называюць яе Чаромхай-Станцыяй. Узнікла яна ў XVI стагоддзі над ракой Нурцом і пачаткова называлася Ажаровічамі — ад старога млынарскага роду Ажаровічаў у Бельскім старастве. Пасля вайны паўстаў тут вялікі чыгуначны вузел. У пасёлку знаходзіцца праваслаўная царква святых Кузьмы і Дзям'яна. Прыход быў створаны ў 1984 годзе з часткі Кляшчэлеўскага прыхода і пачаткова дзейнічаў пры могільнікавай царкве з 1797 года.

У 1994 г. пасёлак налічваў 2 730 жыхароў. Перадавымі землярobамі лічацца тут Ян Зінчук і Васіль Астапковіч. Выдатна тут працуе Гмінны асяродак культуры, вядомы духавым аркестарм і маладзёжнай фальклорнай групай „Чарамшына".

У Чаромхаўскай гміне жыве 4 270 чалавек. На яе тэрыторыі працуюць Падставовая школа (з філіялам у вёсцы Чаромха — кл. I—III) і вечаровы ліцэй.

**Чаромха-Вёска** — распалажана пры шашы ў Кляшчэлі, на паўночны захад ад станцыі, над рэчкай Нурчыкам. Яшчэ ў 1661 годзе называлася яна Нурэц і была „месцкім сялом" Кляшчэляў. Праз вёску пралягаў гістарычны Брэсцкі тракт.

У 1994 г. жыло ў ёй 518 чалавек, цяпер — толькі 412. Перадавым землярobам лічыцца тут Дзмітрый Кердалевіч.

**Ставішчы** — невялікі пасёлак, распалажаны на паўднёвы ўсход ад Чаромхі, пры граніцы з Беларуссю, над рэчкай Нурчыкам. Першая пісьмовая згадка паходзіць з 1786 года. Назва мясцовасці праўдападобна выводзіцца ад ставоў, ад якіх след да нашых дзён не захаваўся. У 1994 г. жыло тут 285, а цяпер — 254 чалавек.

**Кузава** — адна з вялікіх вёсак Чаромхаўскай гміны, якая мяжуе з гмінным цэнтрам. Першапачаткова называлася яна Бабічамі і пад такой назвай была зафіксавана ў дакументах ад 1560 года. У палове XVII стагоддзя вёска з фальваркам прыняла назву Кузава (што абазначае: кош). У XIX стагоддзі ў вёсцы адкрыта была царкоўная школа па ініцыятыве а. Антона Сасноўскага. У 1984 годзе тут быў створаны праваслаўны прыход з царквою св. Варвары. У 1994 г. Кузава налічвала 292, а цяпер — 268 жыхароў.

**Зубачы** — вёска на поўдзень ад Чаромхі, ля граніцы з Беларуссю, з царквою Пакрова Божай Маці. Паводле пісьмовых крыніц ад 1499 года можна меркаваць, што вёска існавала ўжо ў палове XV стагоддзя і была часткай маёмасці шляхецкага роду Тур-Зубацкіх. Праўдападобна тады была ўзведзена драўляная царква св.св. апосталаў Пятра і Паўла. Прыход існаваў ужо ў 1676 годзе.

У міжваенны перыяд прыход у Зубачах меў статус штатнага прыхода. Пасля II сусветнай вайны дзяржаўная граніца змяніла яго тэрыторыю: некалькі вёсак засталіся на савецкім баку, а некаторыя сёлы былога прыхода ў Полаўцах былі далучаны да зубацкага прыхода. Пасля 1984 года некаторыя вёскі адышлі да новастворанага прыхода ў Чаромсе. Цяперашняя драўляная царква была пабудавана пасля пажару ў 90-х гадах XIX стагоддзя. Ёсць тут яшчэ капліца св. Міколы. Каля вёскі цячэ рака Пульва.

У 1994 г. вёска налічвала 155, а цяпер — 106 жыхароў.

*(заканчэнне будзе)*

Міхал Мінцэвіч

# Не шкадую

**кажа 16-гадовы Вадзім ЛАБКОВІЧ, які прасядзеў паўгода ў турме. Разам з іншым актывістам Маладога фронту, Аляксеем ШЫДЛОЎСКІМ (19 год) былі яны абвінавачаны „ў змове, злосным хуліганстве, нішчэнні помнікаў і аганьбаванні дзяржаўнага сцяга". Нанесеныя імі страты былі ацэненыя на 150 долараў. Лабковіч атрымаў за гэта два гады ўмоўнай турмы, а Шыдлоўскі — паўтара года зняволення. Еўрапарламент у спецыяльнай пастанове аб парушэннях правоў чалавека ў Беларусі палічыў іх вязнямі сумлення.**

***— Што адчувае чалавек, які пакідае турму пасля шасці месяцаў знаходжання пад замком?***

— Пераступаеш парог і бачыш толькі тое, што перад табою пад нагамі. Неяк не ўспрымаецца, што можаш ісці куды хочаш, рабіць што хочаш і нават есці што хочаш. Дзіўнае адчуванне свабоды.

***— Чакалі Цябе?***

— Падчас працэсу ўвесь час ля будынка суда збіраліся людзі. Міліцыянт сказаў нават, што абвінавацяць мяне ў арганізацыі нелегальнага мітынгу.

***— Пасля ўсяго гэтага адчуваеш сябе героем ці, можа, ахвярай?***

— Цяжка сказаць, як я сябе адчуваю. Напэўна, ні адным, ні другім. Не мне тут вырашаць. Гэта хутчэй праблема ўлады, якая саджае за дробязі і, такім чынам, псуе свой імідж у іншых краінах.

***— Ты маеш на думцы Сірыю ці Іран, з якімі ў апошні час плённа супрацоўнічае Лукашэнка?***

— Мы ўсё ж жывем у Еўропе і еўрапейскія краіны маю я, перш-наперш, на ўвазе. І не разумею, чаму такімі крокамі гэты рэжым капае між намі яму.

***— Што было самае страшнае падчас зняволення?***

— Неразуменне таго, што я такое страшнае зрабіў, за што мяне пасадзілі. Нават калі чыталі абвінавачанне і я спытаўся пра гэта, сказалі мне: суд разбярэцца. З'явілася такое адчуванне, што кожнага чалавека ў любы час можна ўзяць і пасадзіць.

***— А што Ты зрабіў?***

— Я зняў лукашэнкаўскі сцяг на райвыканкаме ў Стоўбцах і зрабіў некалькі надпісаў у гэтым горадзе на мурах і помніках такім „выдатным" асобам нашай гісторыі як Ленін ці Дзяржынскі.

***— Надпісы былі непрыстойныя?***

— Я наогул не ўжываю брыдкіх слоў. У Стоўбцах было шмат непрыстойных надпісаў на сценах, але я іх не пісаў.

***— Шкадуеш таго, што зрабіў?***

— Не. Калі б я пашкадаваў, тады прызнаў бы, нейкім чынам, сваю памылку. А як можна лічыць памылкай, што ты супраць гэтага рэжыму? Няхай мой учынак быў малаістотны, але, затое, які быў рэзананс пасля арышту. А калі трапляеш за краты, разумееш, што нічога зрабіць ужо немагчыма і ты пра гэта ўжо не думаеш. Не, я не шкадую.

***— У турме б'юць?***

— Мяне не білі. Але ёсць такое, што і б'юць. Аляксея (Шыдлоўскага — М. В.) білі. Мабыць таму, што адразу не ведалі, за што ён сядзіць. Са мною ўсё было ясна ад пачатку і мяне не чапалі.

***— А псіхічны здзек?***

— Калі толькі мяне ўзялі, стараліся запалохаць. Казалі, мы з табою так пагаворым, што ты прызнаешся і да таго, чаго не рабіў.

***— Ты сядзеў у камеры з дарослымі?***

— З непаўналетнімі, якім было 15-17 гадоў. Прычым для вялікай іх часткі гэта быў не першы раз.

***— Як яны ставіліся да Цябе?***

— Здзіўляліся, што за такое могуць замкнуць. А так, нармальна.

***— Што Ты цяпер робіш?***

— Вярнуўся ў школу, у свой 11 клас. Вучуся, каб нагнаць страчаныя месяцы. Настаўнікі паставіліся са зразуменнем, не патрабуюць адразу перазадаваць матэрыял, дапамагаюць, калі гэта магчыма.

***— Што гэта за школа?***

— Звычайная сярэдняя школа Менска.

***— Беларускамоўная?***

— Не, рускамоўная. У пачатку дзевяностых перавялі яе на беларускую мову. Мой малодшы брат пачаў вучыцца па-беларуску і два гады так праўчыўся. У яго нават з'явіўся беларускі акцэнт у рускай мове. Але школу зноў вярнулі на рускую мову.

***— Мусіш заяўляцца на міліцыі?***

— Пакуль прысуд не зрабіўся правамоцны, не. Потым мяне паклічуць і скажуць, якія мае правы і абавязкі.

***— Пачынаецца вясна — найбольш гарачая пара ў Менску.***

— Мабыць, мне прыйдзецца прасядзець не цішэй. Але ў Менску шмат іншых.

***— Дзякуй за размову.***

**Гутарыў Мікола Ваўранюк**



*У час судовага працэсу. У клетцы: Вадзім Лабковіч (злева) і Аляксей Шыдлоўскі.*

## Аляксей і Вадзімы — надзея Радзімы

Ясна сведчаць апошняга часу падзеі:
На старых аніякай няма ў нас надзеі.
Як туман нішчыць снег, так і іх настальгія.
І яны ўжо ніколі не стануць другія.

Пажылыя ж накаўт перанеслі пад дых.
І цяпер спадзяванне на тых маладых,
Што не хочуць стаяць на каленях
І праклятымі ў будучых быць пакаленнях.

Толькі той дабра Айчыне любай хоча,
Хто тырану праўду-матку рэжа ў вочы.
На дабро ж Беларусі святая прыкмета —
Нараджэнне герояў накшталт Шарамета.

На асуджаны часам рэжым прамаскоўскі
Жах сапраўдны наводзяць
Алёша Шыдлоўскі,
Кабанчук і Лабковіч — абодва Вадзімы —
Юнакі-патрыёты, надзея Радзімы.

Творца-моладзь, лёс свой у свае бяры рукі,
Не здаючы нікому яго на парукі!

**Алесь Ляскоўскі**

# Сакавіцкія прывітанні

Вітаю Вас з Юбілеем 80-х Угодкаў Абвяшчэння Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, Векапомным Актам 25-га Сакавіка 1918 г., і адначасова хачу выказаць сваю абсалютную ўпэўненасць, што Нацыянальна-Сьвяты Ідэал Незалежнасці Беларусі перайшоў. пяройдзе і пераадолее ўсе варожыя намаганні знішчыць Яго — бо Ідэал Незалежнасці Беларусі ёсць НЕПЕРАМОЖНЫМ!!!

Гэты Ідэал Незалежнасці Беларусі нават не мог знішчыць пракляты мардэр беларускага народу — Сталін, і не зможа Яго знішчыць таксама і сённяшні дэмагог і ягоныя мясцовыя здраднікі-падхвостнікі, каторыя выступаюць і гавораць ад імя беларускага народу і ў той самы час намагаюцца знішчыць яго як асобную і багатую гісторыяй і культурай нацыю...

Вечная Слава і Памяць Творцам Акту 25-га Сакавіка!!!

Няхай Жыве Незалежная Рэспубліка Беларусь!!!

З вялікай Пашанай да ўсіх Вас,

**Алесь Алехнік**
**Генеральны Сакратар**
**Беларускай Асацыяцыі ў Аўстраліі**

# Расейска-беларускі вайсковы слоўнік

Напрыканцы мінулага года паказалася новае выданне слоўніка вайсковай тэрміналогіі* на беларускай мове. Пакуль беларусы служылі толькі ў савецкай арміі, па зразумелых прычынах вучыліся яны ўсяго на рускай мове, якая дазваляла дагаварыцца з грузінамі, кіргізамі, чачэнцамі, латышамі і ўсялякімі іншымі народамі імперыі. Калі ў 1991 годзе перастаў існаваць Савецкі Саюз, усе народы пачалі ствараць свае ўзброеныя сілы. Усё паказвала, што ўзнікаючая Рэспубліка Беларусь таксама будзе ствараць сваю нацыянальную армію, якая магла б абараняць суверэнітэт краіны. Згодна з законам аб дзяржаўнай мове, усе ўстановы, у тым ліку і армія, павінны былі карыстацца беларускай мовай, якой толькі адной быў нададзены статус дзяржаўнай.

У 1992 годзе маладыя афіцэры — Станіслаў Суднік і Сяржук Чыслаў — у хуткім часе стварылі „Кароткі расейска-беларускі вайсковы слоўнік". Змяшчаў ён каля 1000 камандаў і асноўных тэрмінаў, якімі карыстаюцца афіцэры і салдаты падчас выканання службовых абавязкаў. Гэты слоўнік быў надрукаваны ў 1993 годзе і перададзены ў распараджэнне камандуючым беларускім войскам. Аднак у выніку разлезласці ў рэфармаванні дзяржавы ўрад Вячаслава Кебіча не правадзіў амаль ніякіх зменаў у кадравай палітыцы. Таму кіраванне беларускім войскам надалей заставалася ў руках расейскіх генералаў, якія з нянавісцю ставіліся да незалежнасці Беларусі. Літоўцы, эстонцы, латышы, якія ў сапраўднасці хацелі свабоды і незалежнасці, зразу ўзялі пад свой кантроль узброеныя сілы, выдалі загад вяртацца сваім суродзічам на бацькаўшчыну, а савецкае войска папрасілі пакінуць тэрыторыю сваіх рэспублік. У Беларусі сталася інакш. Пасля выбару Лукашэнкі на пост прэзідэнта краіны чужыя генералы павыкідалі з афіцэрскага корпуса беларускіх патрыётаў. Сябры Згуртавання беларускіх вайскоўцаў вымушаны былі пакінуць службу.

Нягледзячы на ўсе некарысныя змены, якія наступілі пасля 1994 года, Суднік і Чыслаў не спынілі працу над беларускім вайсковым слоўнікам. Мае ён з 1997 года налічвае 8000 слоў і словазлучэнняў вайсковай лексікі. Прызначаны ён не толькі для вайскоўцаў, але таксама для настаўнікаў фізкультуры і спецыяльных курсаў для цывільнай абароны.

Аўтары „Слоўніка" праўдападобна пісалі яго з верай, што рэжым Лукашэнкі — гэта толькі кароткачасовая з'ява і неўзабаве Беларусь будзе патрабаваць усяго, што павінна быць прыкметай незалежнай дзяржавы.

**(ям)**

* С. Суднік, С. Чыслаў, *Расейска-беларускі вайсковы слоўнік*, Менск 1997.

# Беларускія сны пра свабоду

[1 ☞ працяг]

Выканаўчы камітэт Рады І Усебеларускага з'езда праводзіў аднак надалей сваю дзейнасць. 9 сакавіка выдаў грамату, у якой заяўляў, што „Беларускі Народ жыве і жыць будзе". Камітэт аб'явіў узнікненне Беларускай Народнай Рэспублікі, у этнічных межах. Камітэт быў таксама адзінай арганізацыяй, якую немцы прызнавалі як прадстаўніцтва мясцовага насельніцтва, яго аўтарытэт хутка ўзрастаў, а склад пашыраўся дзесяткамі новых грамадскіх і палітычных арганізацый. За згодай сваіх членаў Камітэт назваўся Радай Беларускай Народнай Рэспублікі і 25 сакавіка аб'явіў незалежнасць БНР. Беларусь мела займаць тэрыторыю Віцебшчыны, Віленшчыны, Гарадзеншчыны (з Беластокам), Смаленшчыны, Магілёўшчыны, Чарнігаўшчыны. Палессе немцы берасцейскім дагаворам з Леніным аддалі Украіне.

Некаторыя члены Рады пабаяліся таго, што зрабілі. Незалежнасць, свая дзяржава — здаваліся ім злачынствам. Літоўцы, латышы, эстонцы, украінцы карыстаючыся нагодай стваралі і замацоўвалі свае дзяржавы. Так як гэта было і ў 1990 годзе. Беларусы, калі нават зрабілі крок наперад, зараз пачыналі перапрашаць Маскву за сваё самастойнае рашэнне, за незалежнасць сваёй Бацькаўшчыны. Большасць, аднак, стваральнікаў БНР, супраць волі нямецкіх акупантаў, імкнулася ствараць беларускія структуры ўлады. Калі ў снежні 1918 года бальшавікі нанава занялі Беларусь, не маглі праігнараваць таго фактара, якім была БНР і яе органы ўлады. Ленін вымушаны быў стварыць сваю камуністычную беларускую дзяржаўнасць у выглядзе Сацыялістычнай Савецкай Беларускай Рэспублікі.

**Яўген Мірановіч**

# Новая матура

Войцех Малецкі, упаўнаважаны міністра нацыянальнай адукацыі, каардынатар праграмы „Новая матура", сустрэўся з настаўнікамі ў Інстытуце ўдасканальвання настаўнікаў (Zespole Placówek Doskonalenia Nauczycieli) у Беластоку 23 лютага г.г.

Спадар Малецкі пазнаёміў настаўнікаў з ходам прац над новым экзаменам на атэстат сталасці. Гэты атэстат дагэтуль быў унутрышкольнаю справай, а яго верагоднасць для іншых вучэльняў была нізкая.

Мэта праграмы, якая ажыццяўляецца Міністэрствам — зрабіць атэстат сталасці агульнапрызнаным пасведчаннем, якое заступіць экзамен у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Таму ацэньваць вучня павінен нехта звонку, а не настаўнік, які з ім працаваў.

Прадбачваецца, што ў 2005 годзе экзамен будзе рыхтавацца і ацэньвацца спецыяльным экзаменацыйным асяродкам, а праводзіцца школай. Абавязковымі будуць наступныя прадметы: польская мова, матэматыка і замежная мова. Апрача гэтага будуць прадметы да выбару: гісторыя, біялогія, хімія, фізіка, геаграфія, другая замежная мова ды іншыя.

Экзамен можна будзе здаваць неабмежаваную колькасць разоў, вядома — за адпаведную аплату.

З нацыянальнымі меншасцямі аўтары праграмы яшчэ не працавалі. Паводле В. Малецкага, патрэбныя будуць кансультацыі са спецыялістамі. Родная мова магла б быць, напрыклад, чацвёртым экзаменацыйным прадметам. Адкрытай справай застаецца мова, на якой будзе здавацца ўвесь экзамен на атэстат сталасці.

Ніякіх сур'ёзных зменаў да 2000 года не прадбачваецца. Дык сёлетнія матурысты, як і ўсе ліцэісты могуць спаць спакойна.

**Алег Латышонак**

# Голас першакласнікаў

— Яшчэ ў верасні паўстала ідэя, каб рэдагаваць школьную беларускамоўную газету, — кажа Ірэна Кулік, першакласніца II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. — Хаця былі ахвотныя, па тэхнічных прычынах немагчымым стала ажыццявіць гэтую задуму.

Першакласнікі, якія ў пачатковай школе супрацоўнічалі з „Зоркай", рашыліся рабіць насценную газету „Голас першакласніка". Ужо ў верасні пісалі яны пра свае першыя дні ў новай школе, пазней пра атрасіны і іншыя справы. Зараз рыхтуюцца да Свята незалежнасці — 25 Сакавіка. Ірэна Кулік, Аня Садоўская, Агнешка Галімская і Юліта Леанчук — гэта рэдакцыйная калегія.

— Добра было б, каб паўстала беларускамоўная газета ў форме лістовак, — заяўляе Ірэна Кулік, пастаянны ўдзельнік Сустрэч „Зоркі". — Можна было выкарыстаць журналісцкі вопыт, які назбіраўся ў час Сустрэч. Але калі б рашыцца рэдагаваць газету, трэба было б уключыць у працу вучняў з іншых класаў.

Вучні гэтага ж класа I „ц", якога выхавацелем з'яўляецца настаўнік беларускай мовы Янка Карчэўскі, хочуць рыхтаваць мастацкую пастаноўку, звязаную з вясковымі абрадамі.

— У пачатку школьнага года выраШылі мы дзейнічаць у Клубе аматарскай творчасці, але толькі цяпер больш часу адвялі дэкламацыі, — гаворыць выхавацель згаданага класа.

— У час зімовых канікулаў я пабывала на Сустрэчах „Зоркі", дзе было цудоўна, як заўсёды. Працавала я ў сцэнічнай і журналісцкай групах, — паясняе Ірэна Кулік. — Зараз думаем, якую пастаноўку рыхтаваць у класе.

**Аляксей Мароз**

# Пластычная адукацыя

Актыўна працуе пластычнае атэлье ў Сакольскім асяродку культуры, дырэктарам якога з'яўляецца Крыстына Анджэеўская. Доказ гэтай актыўнасці — шматлікія карціны, малюнкі ды эскізы мясцовых дзяцей і моладзі, выстаўка іх равеснікаў з Гродна, а таксама экспазіцыя абстрактнага мастацтва Анны Аліцыі Трохім з Варшавы, ураджэнкі Саколкі.

У пластычнай майстэрні — каралеўстве Эвы Пэтэльчыц — сцэны ўпрыгожаныя малюнкамі ды карцінамі дзяцей, а таксама акварэлямі настаўніка жывапісу Рышарда Далькевіча з Гародні і ягоных вучняў.

Першую выстаўку вучняў прафесара Р. Далькевіча арганізавалі два гады таму. Сёлета будзе яшчэ адна — з нагоды Дня дзіцяці. Крыху пазней будзе можна шырэй пазнаёміцца з акварэлямі самога прафесара на ягонай персанальнай выстаўцы.

**(гай)**

# *Падзяка*

Праз пасрэдніцтва „Нівы" хачу падзякаваць дырэктару Пачатковай школы ў Нараўцы Яўгену Валкавыцкаму і войту гміны Нараўка Мікалаю Павільчу за цудоўную гасціну, якую падрыхтавалі яны ўсім настаўнікам і ўдзельнікам цэнтральных элімінацый дэкламатарскага конкурсу „Роднае слова". Дзякую таксама настаўніцы, якая падрыхтавала выступленне дзіцячага ансамбля. Гэта было свята для душы і вуха. Словы ўдзячнасці кірую таксама да Ганны Кандрацюк, настаўніцы беларускай мовы з Нараўкі. Было цудоўна! Гасцяў нас дырэктар Валкавыцкі як сапраўды доўгачаканых і патрэбных гасцей. Вялікае дзякуй Вам за гэта. Атмасфера ў Вас цудоўная і няхай так будзе заўсёды!

**Іаланта Грыгарук**

# Запрашэнне

Беларускае аб'яднанне студэнтаў сардэчна запрашае на вечарыну прысвечаную 80-й гадавіне незалежнасці Беларусі.

У праграме прадбачваем:

— канцэрт Віктара Шалкевіча,
— даклад Алега Латышонка.

Мерапрыемства адбудзецца 25 сакавіка 1998 года а гадз. 17⁰⁰ у будынку Універсітэта ў Беластоку, вул. Лінярская 4.

# Нацыянальная тоеснасць гайнаўскіх ліцэістаў

Патрэбныя дакладныя сацыялагічныя даследаванні наконт нацыянальнай тоеснасці жыхароў Беласточчыны і прычын малой актыўнасці беларусаў у культурным, асветніцкім і палітычным жыцці.

У кастрычніку 1997 года Ян Пракапюк, студэнт Інстытута этналогіі і культурнай антрапалогіі Універсітэта імя Адама Міцкевіча ў Познані правёў сярод вучняў чацвёртых класаў II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы сацыялагічныя апытанні, якія могуць даць нейкае ўяўленне наконт праваслаўнай моладзі Беласточчыны. Апытальнікі, якія запоўнілі вучні, паказваюць надта сумную праўду пра нацыянальную тоеснасць выпускнікоў: палякамі лічыць сябе 62%, беларусамі — 23%, „палякамі беларускага паходжання" — 2%, „палякамі праваслаўнага веравызнання" — 2%, „беларусамі паводле бацькоў, але палякамі, бо жывуць у Польшчы" — 1%, грамадзянамі Еўропы — 1%, грамадзянамі свету — 1%, „напалову беларусамі, а напалову палякамі" — 2%, не ведаюць якой яны нацыянальнасці — 6%. Маючы на ўвазе, што невялікую колькасць вучняў састаўляюць каталікі, прыблізна 10%, трэба адзначыць, што рэзультаты апытанняў у вялікай ступені супадаюць з вынікамі даследаванняў, якія правёў на Беласточчыне прафесар сацыялагічных навук Андрэй Садоўскі. Іх рэзультаты памешчаны ў кніжцы *Pogranicze polsko-białoruskie. Tożsamość mieszkańców* (Białystok 1995). Паводле апытанняў, сярод выключна праваслаўнага насельніцтва, палякамі лічыць сябе — 53%, беларусамі — 28%, украінцамі — 1,1%, прадстаўнікамі дзвюх нацыянальнасцяў — 1,6%, прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцяў — 2,4%, не дае адказу на пытанне пра нацыянальнасць — 14,3%. Каталікі Беласточчыны амаль стопрацэнтна заяўляюць, што лічаць сябе палякамі. Мінула амаль чатыры гады ад часу, калі прафесар Ян Чыквін праводзіў апытанні ў Гайнаўскім ліцэі з беларускай мовай навучання. Падобная працэнтная колькасць вучняў назвала сябе беларусамі — 23,8%. Аднак, колькасць вучняў, якія заявілі пра сваю польскасць, была меншая — 38,6%. Больш было нерашучых.

Усе апытанні паказваюць, што няма ніякіх прадпасылак, каб заіснаваў адваротны працэс ад агульных тэндэнцыяў асіміляцыі беларускага насельніцтва Беласточчыны. Большасць праваслаўных вучняў лічыць сябе палякамі не толькі ў сэнсе грамадскай лаяльнасці. Аднак, канчатковыя іх погляды яшчэ не сфарміраваны і надалей нізіраюцца пошукі сваёй тоеснасці.

Ліцэісты не атаясамліваюць Беларусь са сваёй ідэалагічнай Бацькаўшчынай. Заяўляюць, што няма там пашаны ні да спрадвечных дзяржаўных сімвалаў, ні да беларускай мовы, ні да сапраўднай гісторыі. Паводле маладых, усё добрае знаходзіцца на захадзе, а на ўсход ад Буга — паўсюдная азіятчына з брудам, некультурнасцю і эканамічным застоем. Бацькі таксама не памагаюць вырашыць нацыянальныя пытанні моладзі. У многіх сем'ях увогуле няма гутаркі з дзяцьмі пра дыялектную мову дзядоў, пра ўшанаванне традыцый, пра нацыянальныя карані. Здаецца, што дзеці просяць сваіх бацькоў, каб адазваліся „па-свойму". Многія вучні бачаць сваіх праваслаўных бацькоў палякамі і не маюць ніякай асновы, каб задумвацца над сваёй беларускасцю. Відаць гэта ў апошніх апытаннях, калі вучні мусілі вырашыць, кім яны лічаць сваіх бацькоў у сэнсе нацыянальнасці. Палякамі назвала сваіх бацькоў 49% ліцэістаў, беларусамі — 39%, „рускімі" — 1%, „напалову беларусамі, а напалову палякамі" — 2%, не маглі вырашыць — 9%.

Назіраецца, што асіміляцыйныя працэсы пайшлі ужо і на вёску. У многіх вёсках Гайнаўшчыны, асабліва ў ваколіцах Нараўкі, Чаромхі і Кляшчэляў заўважаецца, што бацькі перастаюць вучыць сваіх дзяцей роднага дыялекту. Рэзультаты апытанняў вясковых вучняў могуць шакіраваць тых, якія думаюць, што вёска надалей з'яўляецца абсалютнай апорай беларушчыны. Маладыя з'яўляюцца доказам, што гэта толькі ілюзія: 45% вяскоўцаў лічаць сябе палякамі, а толькі 29% рашуча заяўляе аб сваёй беларускасці. Іншыя прапорцыі складаюцца сярод ліцэістаў, якія жывуць у Гайнаўцы: 74% называе сябе палякамі, а толькі 19% — беларусамі. Як ужо згадвалася, былі і няўпэўненыя. Вынікі апытанняў выпускнікоў ліцэя асабліва сумныя для настаўнікаў беларускай мовы. З'яўляюцца яны доказам, што зацікаўленне з боку вучняў беларускай мовай і літаратурай не абазначае вырашэння нацыянальных праблем. Згодны я з выказваннем ліцэіста Тамаша Саевіча, які ў „Ніве" н-р 25 ад 23.06.1996 г. паказаў адмоўны падыход першакласнікаў да ўсялякіх дыскусіяў наконт нацыянальнай тоеснасці. Могуць жа яны разбурыць уяўленне аб польскасці. На пытанне пра ўдзел у працы нейкіх арганізацыяў адказы былі сумныя: ніякай дзейнасцю не займаецца 95%, належыць да Брацтва праваслаўнай моладзі — 1%, да Клуба польска-беларускіх справаў, які дзейнічае ў ліцэі, толькі 4%.

Пасля такіх рэзультатаў апытанняў паяўляецца пытанне: чаму вучні пайшлі вучыцца менавіта ў гэты ліцэй? Адказы былі розныя: многія вырашылі пайсці таму, што там высокі ўзровень навучання — 35%, некаторым параілі сябры — 16%, прыцягвала новая школа і магчымасць будовы ў ёй басейна — 10%, не было лепшай школы ў ваколіцы — 10%, былі і такія, якія ў галоўным хацелі пазнаёміцца з беларускай мовай, культурай і літаратурай — 8%, на малы выбар наракала 7%, добрыя адносіны паміж настаўнікамі і вучнямі заўважыла 5%, пасля ліцэя вучыцца ў Беларусі хацела 2%, упэўнены ў тым, што гэта школа для праваслаўных — 1%, іншыя не ведалі — 6%.

Апошнія апытанні, праведзеныя як і згаданыя даследаванні прафесара Андрэя Садоўскага і прафесара Яна Чыквіна ў Гайнаўскім ліцэі, з'яўляюцца толькі доказам, што паланізацыйная стыхія ідзе маланкавымі тэмпамі і ў ніякім выпадку не мінае ліцэя. Тыя 8% вучняў, якія свядома прыйшлі ў ліцэй, каб пазнаёміцца з беларускай мовай, літаратурай і культурай паказваюць, якая складаная праца чакае настаўніка беларускай мовы, а 23% нацыянальна свядомых выпускнікоў-беларусаў — які плён працы з моладдзю.

**Аляксей Мароз**

*Тэкст надасланы на конкурс на пасаду журналіста.*

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Мая маленькая айчына



Віктар Швед падпісвае свае кніжкі.

*Мая маленькая айчына,*
*Я твой адданы верны сын,*
*Цябе ніколі не пакіну,*
*Мая калыска, мой спачын.*

**Віктар Швед**

Ужо гэтыя словы сведчаць аб вялікай любові да роднай старонкі. Маглі ў гэтым пераканацца ўдзельнікі XII Сустрэч „Зоркі". Вялікі дыяпазон пачуццяў адлюстроўваюць творы Віктара Шведа, якія не толькі забаўляюць, але і вучаць.

Свой першы твор пісьменнік напісаў яшчэ ў пачатковай школе. Аднак яго „першыя спробы" сустрэліся з насцярожанасцю. Яго настаўніца, прачытаўшы верш, запытала:

— Przyznaj się, bracie, skąd spisałeś ten wiersz?

Хаця паэту гэта забалела, пісаў ён далей.

У сярэдняй школе, як сам прызнаецца, *выжывауся* на школьнай насценгазетцы. Закончыўшы беларускія сярэднія школы ў Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім, Віктар Швед выехаў у Варшаву, знішчаную ў той час вайной.

— Яна расла на маіх вачах, — кажа пра сталіцу Польшчы спадар Швед.

Пасля быў Варшаўскі універсітэт. Прабываючы ў Варшаве, паэт не забыў аднак пра Беласточчыну. Яго галоўным натхненнем была настальгія па родным кутку.

Пачалося супрацоўніцтва з „Нівай". Дэбютаваў ён вершам „Я беларус". Віктар Швед перад усім піша для дзяцей, якіх вельмі любіць. Сам стараецца *спаглядаць на свет вачыма дзіцяці*. Паэта хвалюе нецярпімасць, недахоп пашаны паміж людзьмі, здрада сваёй нацыянальнасці, мове, бацькам.

На заканчэнне сустрэчы ўсе ўдзельнікі маглі набыць зборнікі вершаў Віктара Шведа з аўтографам.

Ад сябе хачу падзякаваць пісьменніку за яго працу, за вялікі ўклад у дзіцячую літаратуру і жадаць наступных зборнікаў вершаў.

**Жанэта Роля, VII кл. ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

## Вершы Віктара Шведа

### Без гарантыі?

Маму раніцай пытае
Малая Агата:
— Ці гарантыю ты маеш
На нашага тату?

— А чаму турбуе доню
Татка даражэнькі?
— Выглядае ён сягоння
Як з пераацэнкі.

### Анколаг

— Даражэнькі татка, —
Азваўся Мікола, —
Растлумач мне гладка:
Хто гэта анколаг?

— Гэта лекар, рака
Ён лячыць умее.
— Ракі-небаракі
Таксама хварэюць?

# Міфы Старой Беларусі

### 22. Кладнік

Кладнік — ахоўнік легендарных пушчанскіх скарбаў. Сам бажок валодае незлічонымі багаццямі.

Апранаецца ён у срэбную світку, у такія ж лапці, часам у боты з залатымі насамі. Шапка Кладніка з літага золата, пояс — залатыя путы з вялізным замком, дарожны кій з чыстага серабра з залатой булавешкай. Апрача таго, уся хатняя абстаноўка Кладніка блішчыць золатам, серабром, каштоўнымі камянямі.

Але пры ўсіх незлічоных багаццях Кладнікі — няшчасныя беднякі. Са свайго велізарнага багацця яны не адводзяць сродкаў на харчовыя патрэбы. Ідзе такі Кладнік, абліты золатам, і ад знямогі, худобы, ледзь ногі перастаўляе.

У сярэбраным яго кашалі валяецца хлебная скарынка, украдзеная або выпрашаная багатым нешчаслівым-жабраком.

Магчыма таму Кладнік насцярожана ставіцца да людзей і сваіх братоў. Пераканаліся ў гэтым многія загубленыя бажком шукальнікі скарбаў, пра што ведаем з прыгодніцкай літаратуры і казак.

Часам Кладнік выносіць скарб на паверхню зямлі, каб праветрыць яго. Гэты момант найбольш зручны для шукальнікаў, але нагода такая здараецца вельмі рэдка і ўдаецца абмежаванай колькасці шчасліўцаў.

**Зорка**

# Вечарына з Баечніцай

20 лютага 1998 года мы — дзеці, якія вывучаюць беларускую мову ў Пачатковай школе ў Гарадку, ладзілі сустрэчу з дзецьмі з Пачатковай школы ў Нарве.

На вечарыну завітала Баечніца, якая прынесла з сабой вельмі многа цікавых казак, гульняў, песень, загадак, лічылак...

У сустрэчу вельмі хутка ўключыліся дзеці з абедзвюх школ. А хіба найбольш актыўна і шчыра дэкламавалі вершы ды разгадвалі загадкі наймалодшыя. Усіх іх Баечніца ўзнагароджвала дробнымі падарункамі. Гэтым (і не толькі) яна здабыла сімпатыю публікі.

Пасля развітання з Баечніцай чацвёртакласнікі нашай школы прадставілі казку „Хто вінаваты". На прыкладзе звяроў паказалі яны, колькі недаразуменняў і клопатаў можа ўвесці ў спакойнае асяроддзе адна схільная да сваркі ды ілгунства асоба (сарока).

У настрой вечарыны сваёй пастаноўкай упісаліся і вучні з Нарвы. Яны паставілі казку „Стралец і рыбак". У ёй паказалі, як хутка можна прывучыць да працы гультаёў і абібокаў.

Пасля артыстычнай часткі былі салодкі пачастунак і танцы.

**Уршуля Тарасэвіч**

# Вечар сірэн

Даўно, даўно ў багатай сям'і жылі два браты-рыцары. Служылі яны каралю даглядаючы яго багатых лясоў, рэк, звяроў. Аднойчы загадаў ім кароль налавіць на вячэру рыбы. І тады сталася незвычайнае здарэнне.

Вайцех і Марцін закінулі сетку ў раку і пачалі ўзірацца на блакітнае неба. Ні адтуль, ні адсюль пачуўся дзявочы голас. Гэта спявалі сірэны. Яны толькі раз у год маглі спяваць свае песні на беразе ракі. Тады таксама скідалі з сябе бліскучыя, рыбіныя скуры і бегалі па лесе ды ласаваліся малінамі, ад якіх яшчэ больш прыгажэлі. Пабачыўшы такое дзіва, браты моўчкі прыселі ў трыснягу і сачылі за расспяванымі прыгажунямі.

Калі дзяўчаты адышлі ў цёмны лес, Вайцех і Марцін наблізіліся да месца, дзе стаялі сірэны. Яны хуценька азірнуліся па баках і схавалі дзве рыбіныя скуры. Неўзабаве вярнуліся і дзяўчаты. Амаль усе кінуліся ў ваду і пачалі плаваць, а дзве сірэны ўсё шукалі свайго адзення.

Тады з трыснягу выйшлі браты-рыцары.

— Чаму не ідзеце да вады?

— Няма нашай вадзяной вопраткі.

— А без яе вы не можаце плаваць?

— Не, у нас вельмі далікатнае цела, без скурак адразу яно б паморшчылася.

— А куды вам трэба плысці?

— Да злой ведзьмы, якая магла б нас адчараваць.

— Навошта?

— Бо многія з нас закаханы ў людзей, што плаваюць лодкамі па рацэ, моры. Мы б хацелі стаць ім жонкамі і жыць сярод людзей.

Пачулі такое браты, падумалі ды сказалі:

— Калі аддамо вам ваша адзенне, ці станеце нашымі жонкамі?

— Так, так, толькі звярніце вопратку.

Сірэны хутка адзеліся і дамовіліся на сустрэчу раніцай з братамі.

Рыцары адразу пайшлі да караля, панеслі рыбу.

Ноч была доўгая і цёмная. Калі разбуджалася сонейка, зашчабяталі птушкі. Браты чакалі сваіх сірэн у дамоўленым месцы. Цераз некалькі хвілін пабачылі дзвюх дзяўчын у доўгіх блакітных сукенках. Іх галовы ўпрыгожвалі буйныя перлы.

— Злая ведзьма дамагаецца двух гаршкоў золата, а не то замкне нас у вадзяным замку, — сказалі сумна сірэны.

Вайцех і Марцін хутка пайшлі да бацькоў. Бацькі, выслухаўшы іх просьбу, далі золата.

— Толькі зважайце на разбойнікаў у лесе, — асцерагалі закаханых сыноў. Тыя быццам на крыллі вярнуліся да дзяўчат.

Ведзьма атрымала сваё золата а рыцары — рукі дзяўчат-прыгажунь. Вайцех і Марцін пасадзілі Аню і Касю ў лодку і паплылі ракою да бацькоў. А пасля шумнага вяселля маладыя жылі доўга і шчасліва.

**Аня Пракапюк**
**VIII кл. ПШ у Новым Корніне**

# „Саюз вызвалення Беларусі”

Так называлася арганізацыя прыдуманая ў 1930 годзе органамі сталінскай палітычнай паліцыі, якую быццам бы стварыла беларуская інтэлігенцыя з мэтай адарваць Беларусь ад Савецкага Саюза. У дваццатых гадах Савецкая Беларусь сапраўды пераўтварылася ў дзяржаву, у якой школы, адміністрацыя, культурныя ўстановы, прэса пачыналі працаваць на беларускай мове. Беларусь апынулася на шляху да беларусізацыі ўсяго грамадства. Разам з беларускай культурай адраджаўся беларускі народ. Сярод кіраўніцтва рэспублікі, вучоных, літаратараў было шмат людзей, якія ў 1917 годзе стваралі беларускую незалежную дзяржаўнасць, шчырых патрыётаў сваё Бацькаўшчыны. У 1929 годзе маскоўскія бальшавікі дайшлі да вываду, што развіццё беларускасці пагражае камуністычнаму рэжыму. У першай палове 1930 года пачалася ганебная прапаганда супраць беларускай інтэлігенцыі. У прапагандаванні нацыяналізму абвінавачваліся не толькі вучоныя, мастакі, літаратары, але таксама беларусы-кіраўнікі дзяржаўных устаноў. У чэрвені 1930 года з Масквы ў Мінск была прыслана група чэкістаў, якія неўзабаве „раскрылі” антысавецкую арганізацыю, якую быццам бы ўзначальваў былы прэм'ер Беларускай Народнай Рэспублікі Вацлаў Ластоўскі. Называлася яна, паводле сталінскай паліцыі, Саюзам вызвалення Беларусі. Як членаў СВБ органы бяспекі арыштавалі 108 беларускіх вучоных, пісьменнікаў, палітыкаў, асветных дзеячаў. Сярод арыштаваных былі, між іншым, Максім Гарэцкі, Янка Купала, Якуб Колас, Усевалад Ігнатоўскі. Некаторых абвінавачаных у нацыяналізме вызвалілі пасля пару месяцаў зняволення, большасць павезлі ў Сібір. У наступных гадах Беларусь пастаянна пазбаўлялася свае нацыянальнай інтэлігенцыі.

# Зямля спявае

Цераз палі, цераз лясы ішло трох падарожнікаў. Ішлі яны тры дні і тры начы ды яшчэ палавіну дня. Змарыліся. Раптам чуюць — нехта спявае.

— Мабыць, жаўранак, — кажа першы падарожнік.

— Не, — кажа другі, — гэта лес шуміць.

Трэці не пагаджаўся з пачутым. Прыпаў ён вухам да зямлі і прашаптаў:

— Людкове, гэта ж зямля наша спявае.

**Аліна Сіроцкая.**
**Падрэчаны (ПШ у Чыжах, VII кл.)**

# *Польска-беларуская крыжаванка № 12*

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Ganek | Tył | ▼ | Przód / Lato | ▼ | Gatunek literacki |
| Złoże ▶ | ▼ | | ▼ | | ▼ |
| Sposób wykonania | | | | | |
| ▶ | | | | | |
| Data ▶ | | | | | |
| 📖 | Kadr ▶ | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 7:**
Тальк, баабаб, грузавік, кутнік, лытка, ар.
Зуб, гул, жарты, бунт, тазік, сабака, львіца.

Узнагароды, **аўтаручкі „Pilot G-1 GRIP”**, выйгралі: **Марцін Мялешка**, **Андрэй Крук** і **Адам Янюк** з ПШ у Новым Корніне, **Малгажата Базылюк**, **Агнешка Сельвясюк** і **Мажэна Пушкарэвіч** з Бельска-Падляшскага, **Аня Касцючук** з Кленік і **Аня Каліноўская** з Махнатага.

**Віншуем!**

Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы” або чакаць іх у сваёй школе.

# Вучні любяць тэатр

У Кляшчэлях адбыліся цэнтральныя элімінацыі вучнёўскіх тэатральных калектываў.

Спецыяльную ўзнагароду бурмістра Кляшчэляў здабыў калектыў з Рыбалаў (Заблудаўская гміна), які вядзе Лідзія Мартынюк. Першае месца заняў калектыў з Пачатковай школы ў Чыжах (вядзе яго настаўніца Анна Лаеўская). Другое месца — раўнапраўнае — калектывы з ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім, з Бельскага дома культуры і ПШ у Кляшчэлях ды трэцяе — групы з ПШ у Старым Корніне (Дубіцкая гміна).

Вылучэнне атрымалі: у катэгорыі лялечных калектываў — тэатральная група з Храбалоў (Бельская гміна) і ў катэгорыі жывога плана — групы з Нарвы, Нараўкі і Семяноўкі.

Узнагароды атрымалі таксама настаўнікі, якія вядуць школьныя тэатры: Ірэна Тамашук, Анна Лаеўская, Анна Бжазоўская, Надзея Галан і Васіль Сегень ды Лідзія Мартынюк з Вяскоўвага дома культуры ў Рыбалах.

Арганізавалі агляд Галоўнае праўленне БГКТ і Куратория асветы ў Беластоку, а таксама ўправа гміны і горада ды МГОК у Кляшчэлях.

**(гай)**



*Праснічкі: Жанэта Роля, Гражына Пашкоўская, Мажэна Жменька і Аня Бусловіч.*

# Пачынаецца ўсё з любві

*(пачатак у 8 нумары)*

**Ведзьма**:
Прасі заступніцтва ў Бога.
Вось тут, тут ля парога
Да неба ўзнясі душу.
Хай пекла ў завірусе спапяліцца,
Хай гром заглушыць
Лямант геены, выццё сатаны.

**Фауст**: Я тут!

*(Фауст і Ведзьма сустракаюцца. Фауст здымае з галавы Ведзьмы завязку.)*

**Летапісец**: Частка шостая: Адам Міцкевіч, „Пан Тадэуш”. Музыка Станіслава Манюшкі, словы Яна Чачота „Праснічка”.

*(Летапісец чытае фрагмент „Пана Тадэуша”, на сцэну ўваходзіць Талімена.)*

**Талімена**:
Дык любіш! Жыву я!
Таго і ад цябе чакала.
Хацела ўжо сёння
Ад бацькі рукі я загінуць.
Цяпер, калі любіш мяне,
То ці зможаш пакінуць?
Дала табе сэрца,
Даю ўсё моўна без завету,
Усюды пайду я за табою
І кожны куточак мне свету
З Табою будзе мілы!
Каханне з найгоршай пустыні
Сад раскошны зробе.
Хлопцу маладому і жанчыне.

**Тадэуш**: Ці страціла ты розум? Куды гэта? Са мною? Чаго? То ж я просты жаўнер. Валачыцца з нейкай маркетанкай?

**Талімена**: Дык можа тады пажаніцца?!

**Тадэуш**:
Ніколі! Ніколі!
Не думаю цяпер
Уваходзіць у нейкія ролі.
Дарма напірацца.
Падумай сама,
Да чаго то падобна?
Кахаймася — дык кожны асобна!
Ужо мушу ехаць,
Бо тут не застануся.
Будзь здарова Талімена.
Заўтра крануся.

*(Тадэуш адыходзіць. Да Талімены падыходзяць дзяўчаты і спяваюць „Праснічку”.)*

**Летапісец**: Частка сёмая: „Дарослае каханне”. Роберт Бэрнтс „Вясёлыя жабракі”.

*(На сцэну ўваходзіць бізнесмен і праганяе ад дзяўчыны беднага каханка.)*

**Бізнесмен**: Прэч пэцкаль! *(да дзяўчыны)*. Я з вашай ласкі тую дрэнь пусціў за дзверы. Падумаць: спарахнелы пень, а строіць кавалера. Хоць я не госць, не гаспадар, а ўсё ж рашыў адразу. Я бізнесмен, артыст і маклер разам. З канца ў канец, як пасланец, хаджу, раблю. Там куплю, там зараблю. Ёсць грошыкі. Да пары. Той малахвост і гол і бос — не мела ты пачвары? А я — мяркуй сама. Табе якраз да пары. Ну, будзе лад? Не трэба сват — я выбіраю скора. Табе спяваць, а мне зарабляць. І зажывем без гора.

*(працяг будзе)*



Талон „Зоркі” № 12
22.03.1998

# VI сустрэча тэатраў у Беластоку

Пачынаецца VI Міжнародны тыдзень тэатра, які арганізуе Беластоцкі тэатр імя А. Вянгеркі на чале з яго дырэктарам Анджэем Якімцам. Мерапрыемства будзе працягвацца ад 20 да 27 сакавіка 1998 года.

Сёлета ў Беласток запрошана дзесяць тэатраў з Польшчы і з замежжа. На жаль, адклікаў свой прыезд Вольны тэатр з Кіева, які цікава было б убачыць на сцэне нашага тэатра.

Прыязджаюць тэатры з заграніцы, якія беластачане ўжо бачылі, такія, як тэатр Янкі Купалы з Менска (супрацоўніцтва працягваецца шмат гадоў), тэатр „Derevo" (Санкт-Пецярбург — Дрэздэн), Рускі драматычны тэатр з Вільні, а таксама тэатр „Белы клоўн" з Украіны.

Упершыню выступіць тэатр з Канады (Theatre Physical). Дырэктар А. Якімец лічыць, што гэта будзе найбольшая сенсацыя, сам бачыў і вельмі яму гэты тэатр спадабаўся. Склад акцёраў — канадска-іспанскі.

У Беласток прыязджае таксама тэатр з Венгрыі („R.S. 9 Theatre Studio"), які ў мінулым годзе ўжо быў у Польшчы і выйграў у Радаме Гамбровічаўскі фестываль. Галоўныя акцёры — з Венгрыі. Гэты тэатр прамуецца Фондам Баторыя.

Што датычыць тэатра з Германіі (KULE Theatre — Company MARU) — дык гэта мешаная група, якая складаецца з немцаў, палякаў і японцаў. Гэты альтэрнатыўны тэатр, блізкі тэатру „Derevo", як бы прамуецца тэатрам з Санкт-Пецярбурга.

З Польшчы выступаюць два тэатры. Амар Сангарэ пакажа манадраму „Рэцэнзент сапраўды тэатральны", не толькі аўтарам якой, але і рэжысёрам, і выканаўцам з'яўляецца ён сам. Як вядома, Амар Сангарэ жыве ў Польшчы, бацька яго — самалієц, а маці — полька. З'яўляецца ён вядомым варшаўскім акцёрам і паэтам.

Другі тэатр з Польшчы: Тэатральнае таварыства „Пулавы" ставіць „Гісторыю каня" паводле апавядання Льва Талстога. Таварыства гэта ўзнікла ў 1995 годзе. Сярод яго дзеячаў ёсць паэты, музыканты, акцёры, паланісты, якія цесна супрацоўнічаюць з асяроддзем.

Не прыедзе на „тыдзень" тэатр Віткацыя з Закапанага, які быў звяздою ў мінулым годзе. Тэатр восенню прыедзе ў Беласток на цэлы тыдзень з некалькімі спектаклямі (мерапрыемства будзе называцца: „Вышыні на нізінах" — спадзяемся, што маюцца тут на думцы ўсяго геаграфічныя паняцці).



*Л. Папова (Соня) і Т. Масаева (Алена Андрэеўна) у п'есе „Дзядзя Ваня" А. Чэхава.*

Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы пакажа нам дзве п'есы: „Чароўная ноч" вядомага польскага драматурга Славаміра Мрожака і „Парфен і Аляксандра" беларускага драматурга Н. Манохіна пра каханне людзей, розных па ўзросту, але аднолькавых па душы.

Рускі драматычны тэатр з Вільні на заканчэнне „тыдня" пакажа нам „Дзядзю Ваню" Антона Чэхава, а тэатр „Белы клоўн" з Украіны, які паспяхова выступіў у мінулым годзе, пакажа сёлета надзвычайную „Карыду". Пантаміма, танец, клаўнада — як і ў мінулым годзе.

**20 сакавіка** а гадзіне $19^{00}$ выступае на вялікай сцэне тэатра А. Вянгеркі тэатр „Derevo" (Санкт-Пецярбург — Дрэздэн);

**21 сакавіка** — KULE Theatre — Company MARU з Германіі (гадз. $19^{00}$, вялікая сцэна);

**22 сакавіка** — тэатр „Белы клоўн" з Украіны з „Карыдай" (сцэнічная кішэнь, гадз. $16^{00}$);

а гадз. $18^{00}$ — Theatre „Physical" з Канады (на вялікай сцэне),

а гадз. $20^{00}$ на малой сцэне выступіць Амар Сангарэ;

**23 сакавіка** — „Карыда" у выкананні тэатра „Белы клоўн" з Украіны (сцэнічная кішэнь, гадз. $12^{00}$ і $16^{00}$),

на малой сцэне а гадз. $12^{00}$ і $16^{00}$ — Амар Сангарэ,

на вялікай сцэне а гадз. $18^{00}$ — Theatre Physical з Канады (на англійскай мове);

**24 сакавіка** — а гадз. $18^{00}$ на вялікай сцэне выступіць тэатр з Венгрыі („R.S. 9 Theatre Studio") — на польскай і венгерскай мовах,

у фае тэатра а гадз. $21^{00}$ тэатр А. Вянгеркі пакажа спектакль „Удовы" Славаміра Мрожака;

**25 сакавіка** (у гадавіну незалежнасці Беларусі) выступіць Тэатр Янкі Купалы з Менска. Спектакль **„Чароўная ноч"** будзе паказаны на малой сцэне а гадз. $14^{00}$ і $20^{00}$,

а спектакль **„Парфен і Аляксандра"** — на вялікай сцэне а гадз. $18^{00}$. Вядома, абодва спектаклі на беларускай мове;

**26 сакавіка** — выступяць артысты з Пулаваў з „Гісторыяй каня" (на малой сцэне, а гадз. $12^{00}$ і $16^{00}$),

а вечарам будуць паказаны „Удовы" у выкананні нашага тэатра (фае, гадз. $20^{30}$);

**27 сакавіка** — „Дзядзя Ваня" ў выкананні артыстаў Рускага драматычнага тэатра з Вільні (на рускай мове).

Дырэктар тэатра імя А. Вянгеркі Анджэй Якімец высунуў прапанову, дзякуючы якой можна будзе правесці рамонт тэатра, які не рамантаваўся ад моманту яго пабудовы. Менавіта кінуў заклік: **„Купі сабе крэсла ў тэатры!"**.

За 1 000 новых злотых можна купіць месца ў тэатры на 5 гадоў — на ўсе прэм'еры, усе гасцінныя імпрэзы, з латунневаю таблічкай, на якой будзе напісана імя і прозвішча ўласніка (можа быць фірма, установа). Ужо прададзена 60 месц.

За ўсе інфармацыі дзякуем кіраўніку Бюро абслугоўвання гледачоў Анджэю Баркоўскаму.

**Ада Чачуга**

# Вяртанне да каранёў

Мясцовыя дзеячы заснавалі Таварыства прыяцеляў Кляшчэлеўскай зямлі (ТПКЗ). Сваю сядзібу мае яно ў асяродку культуры па вул. Чыгуначнай 6. Зараз налічвае яно больш 60 чалавек з Кляшчэляў, Бельска-Падляшскага, Беластока ды Гайнаўкі. Старшынёю ТПКЗ з'яўляецца Васіль Крупіч, а старшынёю Рэвізійнай камісіі — Андрэй Рошчанка.

Таварыства прыяцеляў Кляшчэлеўскай зямлі вырашыла заняцца, між іншым, заснаваннем Рэгіянальнага музея ў Кляшчэлях (ужо пачалі збіраць экспанаты беларускай матэрыяльнай культуры) ды пошукамі ахвотных узнавіць прадукцыю ганчарскіх вырабаў, якімі раней славіліся Кляшчэлі.

ТПКЗ зацікаўлена таксама вядзеннем прафесіянальных запісаў мясцовых песень, казак і легендаў. Яно намерана выдаць кніжку а. Рыгора Сасны пра Кляшчэлеўскую царкву і прыход.

**(гаі)**

# Спадчына для будучыні

Помнікі старадаўнасці і народнай культуры з'яўляюцца нашым супольным дабром. З гэтай думкай у Белавежскім асяродку культуры па вул. Вашкевіча 3 рыхтуем экспазіцыю, якая будзе знаёміць з этнаграфіяй і гісторыяй Белавежы. Будуць паказаны перш-наперш колішнія прылады штодзённага карыстання. Паралельна з выстаўкай будуць адбывацца лекцыі па этнаграфіі і гісторыі, — паінфармаваў дырэктар БАК Лех Навацкі.

Белавежскі асяродак культуры звяртаецца да мясцовых жыхароў з заклікам падараваць або пазычыць будучаму музею экспанаты. Могуць гэта быць драўляныя куфры, чамаданы, калаўроты і прасніцы, жорны, цапы і сярпы, драўляныя бочкі, маслабойкі, лыжкі, талеркі і кубкі, прачы, качалкі і пранікі, гліняныя збаны і гаршкі, вышываныя ручнікі, блузкі і кашулі, колішнія дываны і пакрывалы на ложкі.

Адкрыццё міні-музея прадугледжваецца на 30 чэрвеня гэтага года. Можна будзе ў ім пазнаёміцца з 400-гадовай гісторыяй Белавежы і помнікамі беларускай матэрыяльнай культуры.

**(гаі)**

# Барадаты Зубрыцкі, вядома адкуль

*У краі мрой адпачываю,*
*сумую па мінулых днях,*
*жыцця старонкі праглядаю,*
*іду па казачных слядах (...)*
*Іду, збіраю думак вецце,*
*уваскрасае дзень ва мне.*

***Анджэліна Дубасава***

Гэтыя словы маладзенькай мінскай паэтэсы больш падыходзяць аўтару зборніка ўспамінаў, якім ёсць Георгій Валкавыцкі (лірычны Юрка Зубрыцкі), 75-гадовы працаўнік літаратуры, шматгадовы рэдактар „Нівы", духовы і матэрыяльны апякун пакаленняў літаратурных „белавежцаў". А вярнуўся ён у сапраўды сталым узросце ў сваю родную Белавеж, адкуль быў выйшаў у свет шырокі, і цяпер ён толькі сапраўды шчаслівы.

Зборнік называецца „Белая вязь", і хоць ён — кніжка ўспамінаў, то найбольш тут знойдзеце не пра самога аўтара, а пра іх, пра людзей з Пушчы, пра Пушчу, пра духа, які яднае былое з сённяшнім і з тым, што будзе. Не будзе нас, а Пушча мусіць астацца, бо не так лёгка забіць жывое. Яно аднаўляецца, трымаецца каранямі зямлі, тых жылаў, што аплятаюць Зямлю. Г. Валкавыцкі, як заўсёды, сціпла хаваецца за тым, што **бачаць** іншыя і **іншае**. Іншыя, але падобныя на яго — уважлівыя, чулыя на ўсе гукі прыроды, уражлівыя на чужы боль і радасць, на тое, што бачыць і адчувае Пушча. Сярод ягонага „думак вецця" — выказванні жыхароў Белавежы і іхныя лёсы, успаміны Вольгі Руско-Шуркоўскай, Лявона Майсеюка, даследаванні Алены Казак-Анішэўскай. Да таго збоку заўсёды пазірае ўсюдыпрысутны Сідар Макацёр са сваім гумарам і дыстанцыяй, якой набіраюцца людзі, якія бачылі шмат і пражылі многае ды ўмеюць смяяцца вось так неяхідна, як той старэча, які ўпароць умее, але якога людзі любяць, бо і ён іх кахае, нягледзячы на іхныя хібы.

У „Белай вязі" праўда ўсё. І тое, што было ў старой і яшчэ старэйшай Белавежы, і ў лагеры ў Кёнігсбергу, і ў Літінстытуце ў Маскве, і ў час работы на нашай роднай „Ніве". І ў вандроўках „трох мушкецёраў" (Юрка, Сяргей і Пятро, чацвёрты, як быць павінна — Сідар) па слядах мінулага і рэкамі энергіі. І праўда ўсе тыя *сіндромы*, якія точаць глыбу нашага. І нават князь Белалескі (пра якога рэдактар Я. Міранович думаў спачатку, што ён зусім "не кстати" ў кнізе ўспамінаў, якія фікцыяй, па сваёй натуры, быць не могуць). Нават тая нябыліца-сон пра новыя парадкі ў газеце „Ніхуа" і *сябравіцкім* асяроддзі. Можа, каму замала праўды ў адрэзку „Споведзь старога рэдактара"? Што, мабыць, больш калодаў кідалі варожыя сілы, з якімі ўсё жыццё барукаўся „жалезны рэдактар"? Як Георгій Валкавыцкі „перажыў усіх уладных кіраўнікоў і прайшоў праз усе крутыя павароты"? Як гэта было — вярніцеся да „Віроў" і адкрыйце новую кнігу — „Белую вязь". Белы колер — святло чысціні, праўды і свята, а ўключае ў сабе спектры ўсіх колераў.

**Міра Лукша**

Георгій Валкавыцкі, *Белая вязь*, выданне Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва", Беласток 1998, сс. 325.

# Пра фестываль слоў некалькі

Чарговы раз жыхары Беластока ды Беласточчыны мелі магчымасць перажыць цудоўныя хвіліны ў сваім жыцці, слухаючы нашы, як жа блізкія беларускаму сэрцу, родныя песні ў выкананні шматлікіх вясковых самадзейных калектываў. Вялікая падзяка нашым вясковым жанчынам, асабліва з Паўлаў, Кляшчэляў, Дабрывады, Орлі, Чыжоў ды шмат якім калектывам ды паасобным выканаўцам. У некаторых гледачоў прыкмячаліся слёзы ў вачах. Слава Вам, Беларускія Жанчыны, якія не зважаючы на цяжкія абставіны штодзённага жыцця, знайшлі вольную хвіліну, каб падтрымліваць спрадвечную беларускую песню ды падзяліцца ёю ў гарадскім асяроддзі ды па-за ягонымі межамі!

Фестываль беларускай песні — як жа прыгожа гучыць самы ягоны назоў. Але ці ўсё ў ім было добра падрыхтавана да такога мерапрыемства?

На эстрадзе завешана было нейкае бела-зялёнае а мо жоўта-зялёнае (немагчыма было разрозніць колер) старое палотнішча, а на самым краі, з правага боку завешаны быў невялічкі прыгожы ручнічок. Ці сапраўды арганізатарам не хапіла сродкаў, каб эстраду ўпрыгожыць новым палотнішчам? На маю думку, калі гэта быў Фестываль беларускай песні '98, дык эстрада павінна была быць упрыгожана палотнішчам бел-чырвона-белага колеру. Такім спосабам быў бы ўшанаваны гістарычны беларускі нацыянальны сімвал. Хачу прыпомніць: у Мінску ў мінулым годзе ў зале II З'езду беларусаў свету красаваўся бел-чырвона-белы сцяг з Пагоняй. Там арганізатары II З'езду не баяліся дыктатуры і рэпрэсіўных дзеянняў. Чаго тады баяліся беластоцкія дзеячы? Памятаю, што не так даўно падобныя мерапрыемствы адбываліся ў Беластоцкай філармоніі і там заўжды на эстрадзе красаваўся бел-чырвона-белы сцяг з Пагоняй.

Наступная заўвага датычыць асвятлення. Склалася так, што правы бок глядзельнай залы быў асветлены вельмі моцным пражэктарам. Гледзячы на эстраду, трэба было прыкрываць вочы рукою або якім-небудзь прадметам. Жанчыны прымянялі для гэтага свае сумкі. Запрошаным гасцям і кіраўніку мерапрыемства Яну Сычэўскаму святло пражэктара не перашкаджала. Астатняй публікай ніхто не турбаваўся згодна прыказцы „не можаш глядзець, дык ідзі прэч".

Наконт гасцей „Фестывалю" хочацца спытаць наступнае: каму былі высланы запрашэнні, асабліва ў Рэспубліку Беларусь? У зале знаходзіліся тры або чатыры прадстаўнікі міністэрстваў, адна або дзве жанчыны з Гародні і дыпламаты Рэспублікі Беларусь з жонкамі. Сапраўды, вельмі сціплая дэлегацыя (не ўлічваю акадэмічнага хору ім. Цітовіча з Менска). Памятаю як 3—4 гады таму ў нашых беластоцкіх мерапрыемствах прысутнічалі знакамітыя дзяржаўныя прадстаўнікі: Пятро Краўчанка ды іншыя палітычныя дзеячы, у тым ліку міністры. Дык што сталася сёння? Ці ўвогуле былі запрошаны на фестываль прадстаўнікі Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" ў асобах Радзіма Гарэцкага і Ганны Сурмач? Ці былі запрошаны дзеячы Беларускага народнага фронту „Адраджэнне" ды іншыя дзеячы дэмакратычнай апазіцыі ў Беларусі? Падчас II З'езду ЗБС „Бацькаўшчына" адзін з беластоцкіх дэлегатаў у сваім выступленні пераконваў кіраўніцтва „Бацькаўшчыны" спыніць палітычную дзейнасць і заняцца культурай, песняй і фальклорам, так як гэта робіць БГКТ на Беласточчыне. На маю думку, вельмі неразважна не запрашаць дзеячаў ЗБС „Бацькаўшчына" на фестываль у Беластоку. Няхай бы і яны паглядзелі ды пераканаліся, як не ўмешваючыся ў палітыку можна „цудоўна" праводзіць культурную дзейнасць у грамадстве. Фестываль беларускай песні з'яўляецца наскрозь нашым агульнанацыянальным мерапрыемствам і прысутнасць на ім высокіх прадстаўнікоў урада Беларусі, як і дзеячаў дэмакратычнай апазіцыі была б вельмі пажаданай. У тым ліку пажаданым было б, высылаючы запрашэнне прэзідэнту Польшчы Аляксандру Кваснеўскаму, адначасова выслаць запрашэнне прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку. Лукашэнка любіць наведваць расейскія губерні, дык можа прыехаў бы і да нас на Беласточчыну.

На заканчэнне яшчэ раз выказваю вялікую падзяку ўсім калектывам і выканаўцам чароўных песень. Жадаю ўсім выканаўцам моцнага здароўя і далейшых поспехаў у развіцці беларускай культуры на Беласточчыне. Асабліва вітаю двое наймалодшых удзельнікаў калектыву „Васілёчкі".

**Юстын Пракаповіч**

# Бульба сёння, бульба ўчора!

**Узровень расце! Узровень з кожным годам павышаецца! У беластоцкім павеце закараніліся глыбокія традыцыі песеннага майстэрства!**

Гэта наш каментарый пра V Фестываль „Беларуская песня '98". Ах, ох! Трэлі-трэлі!, а, а, а, туп-туп-туп! Пазіцыя на каленях, тон узбуджаны, сваяцкі, атмасфера штучнага захаплення. Усякая крытыка *пайшла вон!* — бо яны — нашы паны — яшчэ скажуць, што БГКТ хочам распусціць.

— Wiesz, wy chyba macie tragiczne kompleksy, — заўважыў мой знаёмы паляк, паслухаўшы выказванні арганізатараў і журналістаў пра агульнапольскі фестываль „Беларуская песня '98". — Żeby samego siebie tak wazeliną smarować?!

Праўда, знаёмы не зусім паляк, бо прызнаецца да бабулі ў Белавежскай пушчы. Народная мудрасць: *Сам сабе не вораг. Як сам сябе не пахваліш, то і ніхто цябе не пахваліць*, яму па душы. Ну але каб аж тры-чатыры тыдні шмараваць сябе і бедных слухачоў і чытачоў вазелінам, маслам і мёдзікам? То ж Масленіца толькі тыдзень трывае! Хіба, што маем дачыненне з рэкламай. Мне гэтыя гутаркі пра ўзровень жыва асацыююцца з рэкламай сціральных парашкоў. Тут і там вокамгненна павышаецца якасць і ўзровень, ну і, зразумела, цана парашку.

Юрор, Міхась Дрынеўскі з Менска, быў нават здзіўлены, калі журналіст сам аб'явіў яму магічны лозунг „Узровень расце!"

— Ну, расце, — інтэлігентна адказаў маэстра, хаця і не рассакрэціў, у чым заключаецца сутнасць павышанага ўзроўню. Замест аргументаў паўсюдна гучэлі жалезныя лозунгі, якія заўсёды чуем, калі адбываюцца бэгэкатоўскія імпрэзы: 70 творчых выканаўчых адзінак, новы творчы песенны рэпертуар, новыя касцюмы, галасы, хаця не вялікія, але ад сэрца, ну і наперадзе моладзь, а ў ёй жа надзея!

— *І калі слухаем гэтыя песні як:*
*А ў полі лён цвіце.*
*У лугах трава зелянее.*
*Мне да цябе ісці,*
*Ёсць радасць на зямлі,*

— захапляемся ўсе — *то ты ведаеш, што яны, беларусы, тут ёсць. Што песня ў выканаўцаў ідзе з глыбіні душы, а не па заказе.*

Да, да.

— Напэўна, дзякуючы БГКТ, *яны тут ёсць*. А калі ідзе пра заказ, я сумняваюся. Усе спевакі, калектывы і г.зв. творчыя выканаўчыя адзінкі падбіраюць свой рэпертуар якраз пад густ арганізатараў, паклоннікаў таннай савеччыны. Уяўляю сабе, як хацелі б паказацца са сваімі фестывальнымі шэдэўрамі лідзэісткі сярод аднагодкаў, напрыклад, на „Басовішчы". Балеем над складанасцю лёсу *песеннага майстэрства, што глыбока закаранілася ў беластоцкім павеце.*

— А дзе ж яшчэ яны могуць паказацца са сваёй культурай, мастацтвам? — паяўляецца пытанне, здаецца, рытарычнае.

Падказваю: на „Славянскім базары".

Якраз ажыццяўляецца дзяржаўная праграма РБ „Беларусы ў свеце". За выступленне можна купіць касцюм (неабавязкова фальклорны) і чаравікі. Там напэўна спадабаюцца калгасныя (гэтак песенны жанр цудна назваў Стары беларус) дрындушкі тыпу:

*Бульбу варым,*
*Бульбу жарым*
*І аб лепшым*
*Шчасці марым.*

— Tym swoim wychwalaniem to tylko demoralizujecie uczciwych ludzi ze wsi, — падказвае мой знаёмы. — Oni przecież nie umieją ocenić tego co robią. Zresztą... Każdy normalny człowiek ma ten sam problem.

Але не мы, журналісты. Нам падабаецца атмасфера крывадушнай канкурэнцыі, хітры спосаб узнагароджвання сумленных, адданых беларускай песні спевакоў, будучага электарату.

Дзе яшчэ на свеце амаль усе выканаўцы становяцца пераможцамі? Дзесяць першых месц, дзесяць другіх месц, дзесяць трэціх месц! Гэта ж у сапраўднасці паранойя. Мяне расчуліў адзін з лаўрэатаў, які шчыра цешыўся сваім поспехам.

— Мы цэлы год на гэта працавалі, — гаварыў спявак, п'яны ад шчасця.

І падумаць, што так жа цешыцца яшчэ дваццаць дзевяць *творчых выканаўчых адзінак*, паверлічаных на многія-многія адзінкі ў грандыёзных калектывах.

Цешмася і святкуйма ўсе!

Узровень расце! *Парсючок пад уаўкай* (як спявае лаўрэат-калектыў „998") *бульбачку грызе!* Хай усіх нас натхняе ўзнагароджаны шлягер „Расспяванага Гарадка":

*Бульба сёння, бульба ўчора,*
*А без бульбы проста гора.*
*Век харошы, час харошы,*
*Зарабляйце, хлопцы, грошы!*

**Ганна Кандрацюк**

# Пры беларускай граніцы

Ужо некалькі гадоў штодзень даязджаю на работу з Гайнаўкі ў Дубічы-Царкоўныя. Рэдка калі бяру выпадковых пасажыраў. Найчасцей падвожу сваіх знаёмых, хаця здараюцца і выключэнні. Аднойчы ў лесе за Гайнаўкай пабачыў я старэйшага мужчыну, які галасаваў на дарозе. Ужо ў машыне аказалася, што гэта грамадзянін Беларусі. Прыехаў ён у Гайнаўку наведаць у турме сына, які быў арыштаваны па абвінавачанні ў кантрабандзе аўтамабіля. Бацьку не ўдалося ні чога аформіць, ні пабачыць сына, бо ў гэты дзень не было пракурора.

Мой пасажыр расказваў, як ён хваляваўся, калі нейкі час не было весткі ад сына, як ездзіў па розных варожках, якія ў нічым яму не памаглі, хаця грошы за паслугу бралі, як урэшце пазваніў знаёмы сына, які раней прапанаваў яму прывезці з Польшчы танную легкавую машыну, і ўсё высветліў — сын у Польшчы за кратамі.

Два тыдні пазней зноў на шашы сустрэў я гэтага ж чалавека. Няшчаслівы бацька быў ужо ў Польшчы трэці раз. Зноў не было пракурора і не даведаўся, калі адбудзецца судовая справа. Ягонага сына абвінавачваюць у садзеянні злачынцам. Бацька хоча выцягнуць сына з турмы, не зважаючы на кошты. Сам ён зарабляе каля 60 долараў у месяц. На беларускія ўмовы гэта і не так мала, але амаль усё паглынае харчаванне. Відаць, прыйдзецца яму прадаць машыну.

— Не дарую ім, хаця б прыйшлося мне паплаціцца галавой, — сказаў ён. — Буду намагацца, каб сынавы кампаньёны аплацілі добрага адваката.

Аказалася, што злашчасная машына была ўкрадзена ў Італіі. Сын пра гэта нічога не ведаў. Беларускія законы дазваляюць грамадзяніну ўвезці з-за мяжы адну машыну па льготных мытных аплатах. За другую і чарговыя трэба ўжо плаціць высокае мыта. Каб абысці гэты закон, кантрабандысты наймаюць платных перагоншчыкаў аўтамабіляў. Сын майго пасажыра меў за гэта дастаць 50 долараў. Хуткі заробак, аднак, не атрымаўся, а юнак трапіў у турму. Па гэтай прычыне бацьку спасціглі шматлікія клопаты.

Ці ж варта беларускім юнакам так наіўна верыць у хуткі і лёгкі заробак?

**Славамір Кулік**

# Парашутыст з Вулькі-Выганоўскай

**Уладзімір ГАЎРЫЛЮК, 73-гадовы селянін-пенсіянер з Вулькі-Выганоўскай Арлянскай гміны, у II сусветную вайну сем гадоў туляўся па свеце. Спачатку саветы саслалі яго на Сібір, потым трапіў у армію Андэрса.**

— У 1933 годзе наша сям'я пераехала з Вулькі ў Кляшчэлі, дзе бацька адкрыў магазін. Там я закончыў сем класаў школы і ў 1938 годзе паступіў у тэхнікум у Брэсце, на дарожна-будаўнічае аддзяленне. У 1939 годзе пачалася вайна і неўзабаве прыйшлі саветы. Школа працягвала навуку, але пасля зімніх канікул урокі вяліся ўжо на рускай мове і была зменена назва тэхнікума. Зімою 1940 года не атрымаў я дазволу на жыхарства ў Брэсце. Прычынай гэтаму была спраўка, якую выдаў Ян Голец, старшыня сельсавета ў Вульцы-Выганоўскай. А ў ёй было напісана: „...является сыном кулака и эксплуататора человеческого труда". У сувязі з гэтым перанёсся я ў дзесяцігодку ў Бельску. Вучыўся я ў сярэдняй школе ўсяго два з паловай года.

На канікулах павялі мы са Сцяпанам Карпюком коней на начлег. Ён быў старэйшы за мяне і задрамаў у збожжы. Я заўважыў, што ў мой бок набліжаюцца два энкавэдзісты. Сказалі яны толькі: „Руки вверх! Собирайсь, пойдём домой!" і павялі ў вёску. А дома бацькі ўжо рыхтаваліся ў Сібір. Палічылі нас кулакамі, бо было ў нас сорак гектараў зямлі. Раніцай мяне, брата і бацькоў завезлі ў Кляшчэлі, адкуль адправілі аж за Томск. Па дарозе аддзялілі ад нас бацьку і пасадзілі яго ў турму ў Брэсце. З бацькам сустрэўся я толькі ў 1947 годзе ў Вульцы.

У Сібіры жылі мы ў хатах з круглякоў. Маці не перанесла тамашніх умоў і памерла. Мне ўдалося запісацца ў школу юнакоў пры арміі Андэрса і з польскім войскам выехаць цераз Персію і Ірак у Палесціну. Там пасля двух месяцаў накіравалі мяне ў авіяцыйную школу ў Англіі, але на месцы аказалася, што такой школы няма і ў выніку апынуўся я ў парашутнай брыгадзе. Агулам зрабіў я семнаццаць скачкоў, з ліку якіх апошнім быў скачок над Арнгем у Галандыі ў верасні 1944 года. Сюды скінулі нас пасля абеду з самалёта „Дакота". Скакалі ўсе з поўным аснашчэннем. Я быў у санітарнай кампаніі. Прызямліліся мы каля мясцовасці Дрыль. У вясковай хаце арганізавалі мы санітарны пункт.



Я дапамагаў лекару пры перавязцы раненых. Як прыйшлі да нас англійскія падраздзяленні, тады адправілі нас на караблях назад у Англію. Усю зіму служыў я ў ваенным шпіталі, а ў красавіку 1945 года нашы падраздзяленні былі пераведзены ў Нямеччыну.

Два гады наша санітарная кампанія стаяла ў невялікай мясцовасці Норктан-Піластан паміж Гановерам і Мюнстэрам. Знаходзіліся мы пад англійскім галоўным камандаваннем, але камандзірам брыгады быў паляк, ген. Станіслаў Сасабоўскі.

Вярнуўся я ў Вульку-Выганоўскую ў жніво 1947 года. Мой брат Аляксандр вярнуўся некалькі месяцаў раней. Ён таксама быў у арміі Андэрса, але вяртаўся на радзіму цераз Італію. Пасля вяртання цікавіліся намі органы дзяржбяспекі і трэба было асцерагацца не толькі іх, але і вясковых даносчыкаў. Толькі ў 1990 годзе атрымаў я Крыж баявога чыну Польскіх Узброеных Сіл на Захадзе.

Атрымаў я ад КРУС пенсію за працу на сваёй 9-гектарнай гаспадарцы, але не хочуць выплачваць мне ветэранскі дадатак. Судзіўся я з КРУС у гэтай справе, але нічога не дабіўся. А мой брат, які прайшоў такі самы ваенны шлях, атрымоўвае дадатак, бо яму пенсію плаціць ЗУС. Далі мне толькі 2 злоты дадатку за сібірскую ссылку, то я нават не хачу запісвацца да арганізацыі сібіракоў, бо там членскія ўзносы намнога большыя за той дадатак.

Запісаў
**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# „Навучыўся радавацца чужой радасці..."

*Лісты Міхася Забэйды-Суміцкага да Максіма Танка*
***(працяг; пачатак у 46 н-ры за 1997 год)***

Прага, 26.10.1974 г.

Дарагі Максіме!

Ужо не раз збіраўся напісаць Табе вялікае дзякуй за „Полымя" з Тваімі вершамі з кнігі „Дарога, закалыханая жытам", але перад гэтым пачынаў нанова пераглядаць Твае вершы і так зачытваўся імі, так задумваўся, што час праходзіў, а падзяка не была напісана.

Вершы Твае мне падабаліся заўсёды, але гэтым разам захапляюся імі яшчэ больш. Часамі здаецца, што даўно іх насіў у сабе, а Ты ўзяў і з высокім майстэрствам напісаў іх.

„Усё часцей шкадую
змарнаваных дзён..."
„Так і не паспеў наездзіцца..."
„Каб стварыў такую песню,
што няўцешлівых пацешыць..."
„Нічым не пацешу нашчадкаў
сваіх..."

Гэта думы, якія мне і да сёння не даюць спакою. Я Табе не пісаў, што ў 68-м годзе ўсе мае найгранні за 30 год, зробленыя на Пражскім радыё і захаваныя ў „залатым фондзе", былі знішчаны („па тэхнічных прычынах"!). А былі там і песні Шастаковіча, Кабалеўскага, Хачатурана, і песні іншых народаў... „Нічым не пацешу нашчадкаў сваіх...".

Ты гэтага, браток, сказаць не можаш. Залатая зорка Героя Сацыялістычнай Працы будзе свяціць і далей. Шчыра Цябе віншую і вельмі радуюся з усімі Тваімі сябрамі і чытачамі-паклоннікамі Твайго вялікага таленту.

Можа, Цябе зацікавіць такая звестка: нядаўна на Пражскім радыё выступаў Народны артыст Карал Плічка — слаўны фалькларыст, мастацкі фатограф і кінааператар. Выступаў з нагоды яго 80-годдзя. На пытанне, што ў яго доўгім жыцці зрабіла на яго наймацнейшае, незабыўнае ўражанне, ён, між іншым, сказаў: „Беларуская калыханка ў выкананні Міхала Забэйды". А чуў ён мяне гадоў 20 таму назад, калі я выступаў з артыстамі нацыянальнага тэатра.

Трохі пра сваё здароўе. Яно, зразумела, пагоршылася, але так, што яшчэ магу дайсці ў сталоўку, хоць памалу. Найболыш дакучае ангіна пэктарыс. Не пераносіць жаднага хвалявання. І ногі зямля прыцягвае. Дактары кажуць, што трэба да гэтага прыстасавацца (приспособиться). Дык жыву, як „скрыпучае дрэва".

Але ўсё яшчэ хачу быць карысным сацыялістычнаму грамадству. Падрыхтаваў некалькі песень славацкіх кампазытараў к 30-годдзю Славацкага народнага паўстання. Але дзе і калі заспяваю — не ведаю. Рыхтуюся да выступлення ў месяцы Чэхаславацка-Савецкай дружбы. Адным словам, спяваю пакуль што ў сябе дома...

З „Полымя" бачу, як развіваецца наша літаратура, і гэта мяне вельмі радуе. Ніл Гілевіч прыслаў вельмі цікавую кнігу: „Песні народных свят і абрадаў", за што яму вельмі ўдзячны.

З вялікім зацікаўленнем чытаю заўсёды „Хроніку" „Полымя". У апошнім н-ры дзевятым (верасень) яна вельмі багатая.

Канчаю. Маё сэрца ўжо „крычыць"... Ведаю, як Ты, дарагі Максіме, загружаны працай. Калі знойдзеш вольную хвіліну, напішы пра сваё здароўе. Нізкі паклон Табе і Тваім блізкім.

З любоўю — Твой М. Забэйда.

PS. З радыё даведаўся, што памёр Давід Ойстрах. Шкада! Вялікі скрыпач і добры чалавек.

***(закончэнне будзе)***

# Мінулыя сустрэчы

З задавальненнем чытаю ў „Ніве" лісты Міхася Забэйды-Суміцкага да Максіма Танка. Справа ў тым, што мне пашчасціла бачыць і слухаць гэтых слаўных сыноў беларускага народа. У 1966 годзе на афішах у Беластоку аб'яўлялася аб выступленнях спевака сусветнай славы Міхася Забэйды-Суміцкага. Адзін канцэрт даў спявак для членаў БГКТ у будынку Галоўнага праўлення. Мне давялося быць на гэтым канцэрце. Забэйду-Суміцкаму было тады гадоў пад семдзесят. Ён яшчэ добра трымаўся на сцэне. Артыст коратка расказаў пра сябе, а потым спяваў беларускія народныя песні, у якіх чулася вялікая настальгія па радзіме. Голас спевака быў прыгожы і кранаў сэрцы гледачоў. Шчырымі і бурнымі апладысментамі прымалі людзі кожную песню. Акрамя беларускіх праспяваў Забэйда таксама некалькі песень на чэшскай, італьянскай і нямецкай мовах. Было прыемна слухаць і ганарыцца гэтым выдатным беларусам-артыстам. Пасля канцэрта яшчэ доўга ў галаве сядзела мелодыя „Ой, мама, мама, чаго я плачу".

Прайшлі гады і ў 1982 годзе Беласточчыну наведаў славуты паэт Максім Танк. Між іншым прыехаў ён у Нараўку, дзе адбылася сустрэча насельніцтва з беларускімі пісьменнікамі.

Танк чытаў свае вершы і адказваў на пытанні слухачоў. Успомніў ён тады факт са сваёй маладосці. Да вайны яшчэ прыязджаў малады паэт у Нараўку да доктара Марцінчыка. Старыя людзі памятаюць гэтага добрага лекара.

Сёння няма ў жывых Міхася Забэйды-Суміцкага і Максіма Танка. Пакінулі яны нам сваё цудоўнае мастацтва. Дзякуючы „Ніве" даведаўся я, што спявак і паэт былі сябрамі.

**Мікалай Варанецкі**

# 19 студзеня

19 студзеня — дзень як дзень. Але быў ён не менш важны ад іншых, а нават цікавы.

Якраз я ў той дзень паехала ў Беласток на базар, каб купіць абноўку. Нідзе цяпер адзення не брakue, але ў Беластоку танней і большы выбар.

У гэты дзень мне не вельмі шанцавала. Амаль усе купцы пайшлі на дэманстрацыю пад Ваяводскую ўправу. Мала дзе былі адчыненыя ларкі. Ледзь купіла што было мне трэба. Сустрэла я знаёмую, якая гандлюе пасцеллю. Сказала мне, што пастаіць крыху і зачыніць сваю будку, бо калегі могуць мець прэтэнзію за тое, што ломіць страйк.

— Як не пусцілі *рускіх*, — сказала яна, — то во якую бяду маем. Няма збыту на нашы тавары. Раней я за месяц магла ўтаргаваць 80-90 тысяч за пасцель, а цяпер толькі 5 тысяч утаргавала. Як так далей пойдзе, буду беспрацоўнай. У майго шэфа дзвесце кабет мела працу пры пашыўцы, былі працаўнікі, што толькі гузікі ўшывалі. Ужо палову звольнілі, бо не аплачваецца шыць. У прадпрыемстве, дзе працуе мая сястра, таксама скарачаюць. А ведаеш, многія з нашых прадпрымальнікаў пісалі раней прашэнні, каб не дазволіць *рускім* гандляваць, бо яны грошы нам забіраюць. Але яны прадавалі свой тавар, а куплялі наш. І работа была, і абарот быў...

З базара я накіравалася ў рэдакцыю „Нівы". Там таксама не было весела. Якраз прыйшлі паліцыянты, спісвалі пратакол пра спробу пакражы. Нейкія хуліганы ноччу стараліся ўзламацца ў рэдакцыю, пілавалі краты ў вокнах, паламалі замкі ў дзвярах. Добра, што спужалі іх суседзі „Нівы", што жывуць у будынку. А што тут у „Ніве" забіраць? Рэдакцыя бедная, і калі б зладзеі ведалі, што там такія старэнькія камп'ютэры, пэўна і не стараліся б так (пяць разоў прабавалі ўжо ўзламацца!).

Сумна мне было ў гэты дзень. Папялася я на аўтавакзал. Беласток я пабачыла яшчэ ўвечары ў тэлебачанні: паказвалі дэманстрацыю беластоцкіх купцоў. Справа сур'ёзная. Ад гэтага, кажуць людзі, залежыць лёс палякаў, — ад таго ўсходняга рынку, ад адкрыцця ў той бок.

**Аўрора**

# Парнасік

### Прысутнасць

Камень на грудзях лёг.
У нутры коле і ные.
А яму не баліць ужо.
Ён не вернецца
З хаткі без акна.
Усё стаіць, як даўней.
Людзі ходзяць грамадой
І паасобку. Дождж ідзе.
Сыпле снег. Цісне мароз.
Усё паўтараецца.
Усё прамінае.
А нам баліць.

**Аўрора**

### Адкуль гэта прыходзіць?

Дэмаралізацыя і распуста —
Гэта не расада капусты,
Што карысць нам прыносіць.
Дэмаралізацыя ганьбу наносіць
На нашых дзяцей, маладых
І, на бяду, часта на старых.
Амерыка гэты „куколь” сее,
А мы пажынаем і веем.
Адтуль і прыйшоў сатанізм —
Ён намнога горшы за сталінізм,
Бо з чалавека робіць жывёлу;
З ім немагчыма весці размову.
Бо ён прысягнуў служыць
цёмным сілам,
У якіх герб — вілы,
А гімн — дзікі крык і *вой*.
З Хрыстовай навукай вядзе ён бой.
Парнаграфія і прастытуцыя
к нам пралезла
І ў сэрцы-душы нават
міністрам улезла.
А якія амерыканскія фільмы, тэатры —
Гэта ганьба, паніжэнне і не жарты.
У іх дэманструюцца сіла
і „перамога”,
Аж гледача хапае агіда і знямога.
Амерыканскі „рай” расшыраецца
І сваім нігілізмам славіцца.
Непаслухмяным ЗША аб'яўляе
шантаж і *дыктоўку*
І да вайны падрыхтоўку;
Прыкладам гэтаму Ірак.
Для мяне Хусейн — герой,
Клінтан — небарак,
Таму, што можна знішчыць краіну,
але не народ.
І славіцца мужнасцю такі род,
Які не злякаўся самалётаў і ракет —
Гэта амерыканскі ганебны „балет”.
Цаню адважныя народы: іракцы,
кубінскі,
Паўночнакарэйскі, сербскі —
не панскія;
Кожнага, хто амерыканцаў
не спужаўся
І ў сваёй самаахвярнасці
загартаваўся.

**Мікалай Панфілюк**

### „Пронар”

„Пронар” — то суполка,
Ва ўсёй дзяржаве знана.
Хочаш трактар меці,
Там купіш найтаней.
Не толькі ў дзяржаве
Але ва ўсім свеце
Трактары з „Пронару”
Пачалі ўжо ездзіць.
Тут ветліва абслуга
Шчыра ўсіх прымаюць
Ну і беспрацоўе
У гміне памяншаюць.
Калі хоч каб лепей
Было табе жыці,
То ідзі у „Пронар”
У Нарву рабіці.
Там Сяргей дырэктар
Пра ўсіх рабочых дбае,
Добры ўмовы працы
Для іх ён стварае.
Калі ты завочаш
Добры трактар меці
Прыязджай у Нарву
У „Пронар” паглядзеці.
Тут усё дастанеш,
Што душа жадае.
Потым будзеш жыці
Як ў нябесным раю.

**Мікалай Лук'янюк**

# Крыжаванка




**Гарызантальна:** Яўхім, беларускі мовазнавец (1861—1931), 7. Хіраясу, алімпійскі чэмпіён з Нагана ў бегу на 500 м на каньках, 8. прылада для капання зямлі, 9. Атарына, італьянскі кампазітар (1879—1936), 10. яе гербам кляновы лісток, 14. вялікая шматвёславая лодка, 18. Хіросіге, японскі мастак (1797—1858), 19. някемлівы чалавек, 20. Галіна, алімпійская чэмпіёнка з Нагана ў спаборніцтве па біятлоне на 7,5 км, 21. поўны правал.

**Вертыкальна:** 1. драпежная птушка, 2. палітычны пасланец за мяжу, 3. зімовае пацяпленне, 4. Ільля, алімпійскі чэмпіён з Нагана па фігурнаму катанню, 5. Ільля, расейскі жывапісец (1844—1930), 6. адмоўны электрод, 11. невялікі блін спечаны на патэльні, 12. пункт арбіты Месяца найбольш аддалены ад Зямлі, 13. прылада, 15. сям'я канструктараў смычковых інструментаў з Крэмоны, 16. арэх какосавай пальмы, 17. самка сабачкі. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 5 нумара**

**Гарызантальна:** вязка, Метэрлінк, Гагра, Індыя, Цын, Гарэцкі, Ішымбай, туз, хруст, кісет, Гейнсбара, Адэса.

**Вертыкальна:** дзёруры, Вітка, алібі, Магдэбург, Кадамоста, Гракх, яхант, Ціт, ніз, Уэбстэр, тайга, крама.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# Вер — не вер

Астроне, мне прысніўся сон не толькі дзіўны, але і непрыстойны. Проста не ведаю, адкуль такое ў галаву чалавеку прыйдзе ноччу. Здаецца, нічога такога і не думаеш удзень.

Бачу нейкага чалавека ў бардовым пінжаку. Не ведаю, хто гэта, але быццам ён нейкі ўраднік. Сядзіць за пісьмовым сталом і робіць... кучу. Я не бачу канкрэтна, як ён гэта робіць, але ведаю пра гэта. Бачу, як ён схіліўся набок, але экскрэментаў не відаць.

А пасля — другі этап сну, мо яшчэ горшы, чым быў першы. Гляджу я, а той чалавек, зрабіўшы тое, што меў зрабіць, рассеўся за тым сваім пісьмовым сталом, быццам у рэстаране, расклаўшы зручна рукі, узяў нож і відэлец і пачынае есці... свае экскрэменты. Ізноў я іх не бачу, але ведаю, што ён іх умінае з апетытам. Мне агідна.

Я ведаю, што чакае мяне нешта кепскае, але мо ты мяне, Астронку, хоць крыху суцешыш...

**Ганна**

Мілы Астронку! Я ізноў са сваёй „вышынёй”. Бачу сваю ўнучку. Яна стаіць на даху вялікага дома, блёка. Стаіць ля самага краю, здаецца што вось-вось яна зваліцца. Мне страшна, што я магла нават такое падумаць. Але ж гляджу, унучка пахіснулася і так, як я і думала, ляціць уніз. Божа, што рабіць?! Я ў жаху. Дзяўчынка бразнулася на зямлю і я падумала: усё! Пасля гляджу, а яна паварушылася і, быццам бы нічога не здарылася, устала і пайшла.

**Яня**

Твой сон, Ганна, напэўна непрыемны, але, хочучы цябе суцешыць, магу сказаць: у вялікай ступені ён табе не пашкодзіць, паколькі ты не бачыла экскрэментаў, а толькі сабе іх уяўляла. Мо будзеш мець праблемы з нейкім ураднікам, а можа быць і так, што ён „з'есць” тое, што „нарабіў”.

І ў цябе, Яня, не здарыцца нешта такое кепскае, пра якое ўвесь час ты думаеш. Твая ўнучка шчаслівая саскочыла ўніз, хаця ты думала, што ўжо яна забілася. Так і твае справы, нягледзячы на пагрозу, могуць пайсці ў цалкам добрым напрамку.

**Астрон**

# Конкурсы, выстаўкі, сустрэчы...

## *Не толькі валачобнае*

Ваяводскі асяродак анімацыі культуры (ВААК) у Беластоку супольна з іншымі асяродкамі культуры арганізуе ваяводскі агляд, між іншым, фарбаваных яек, пальмаў, якія рыхтуюць пад Вербніцу ды іншых велікодных упрыгожанняў, напрыклад, кветак, „павукоў”, выцінанак ды абрадных пірагоў — буславых лапаў, калачоў і караваяў. Апрача гэтага адбудзецца таксама конкурс на прыгожыя аздобы з масла і сыру, якія падаюць на велікодны стол.

У конкурсе могуць удзельнічаць усе, хто да **24 сакавіка г.г.** прывязе свае творы ў **Манецкі асяродак культуры ў Моньках**, па вул. **Беластоцкай 25**.

Журы будзе ацэньваць народную творчасць у двух катэгорыях: дарослых і дзяцей ва ўзросце да 15 гадоў. Вынікі будуць вядомы 25 сакавіка гэтага года.

## *Вышываць кожны можа*

Беластоцкі аддзел Таварыства народных творцаў і ВААК аб'явілі конкурс на найлепшыя ўзоры гафту і карункі. У конкурсе можа ўдзельнічаць кожны зацікаўлены. У Гайнаўцы падрабязную інфармацыю можна атрымаць у інструктара Гайнаўскага дома культуры і па тэлефоне 682-32-03 да 30 сакавіка бягучага года.

## *Пошта ў фотааб'ектыве*

У сувязі з 440-годдзем існавання Польскай пошты Раённая ўправа пошты і Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку аб'яўляюць конкурс пад загалоўкам „Польская пошта ўчора і сёння на Беласточчыне”. Мэта яго — пасведчыць на фотаздымках гісторыю пошты на Беласточчыне. Можна дасылаць архіўныя і сучасныя здымкі. Павінны яны толькі тэматычна быць звязаны з Беластоцкім ваяводствам ды прадстаўляць старыя або новыя паштовыя аб'екты, працу пісьманосцаў і іншых паштовых работнікаў.

Фармат дасыланых фатаграфій: для архіўных адвольны і сучасных — не меншы чымсьці 15 х 21 см.

Арганізатары інфармуюць, што пажаданым было б прысылаць прынамсі тры здымкі чорна-белыя або каляровыя да 9 верасня гэтага года ў ВААК, 15-089 Беласток, вул. Кілінскага 8.

## *Пушча і інтэграцыя*

22 сакавіка г.г. у Гайнаўскім доме культуры па вул. Беластоцкай 2 адбудзецца сустрэча з Кшыштафам Вольфрамам на тэму „Белавежская пушча і еўрапейская інтэграцыя”. Запрашаем усіх зацікаўленых.

Пачатак сходу а гадз. $16^{00}$.

## *Лес у бібліятэцы*

У пачатку сакавіка г.г. у Гарадской публічнай бібліятэцы ў Гайнаўцы па вул. 3 Мая 46 адкрылі фотавыстаўку Мар'юша Юзвіка з Чарлянкі, што ў Белавежскай пушчы. Складаецца яна з 20 фотаздымкаў.

Паглядзець экспазіцыю можна кожны дзень (апрача нядзеляў) у гадзінах калі працуе ГПБ. Запрашаем усіх зацікаўленых.

**(гай)**

**Ніва**

**„Niwa”**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435 022.

Druk: „ORTHDRUK”, ul. Składowa 9, Białystok.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Міяновіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1998 r. upływa 5 czerwca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1998 r. wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2 zł, a kwartalnie — 26 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

Фрашкі пра нашых

## Госцейкі

Тосі-тосі лапкі,
Паедзем у аглядкі,
Але не да бабкі,
Ў бабкі — непаладкі.
Паедзем да сванькі,
Завязем капанькі,
Нальем туды піва,
Будзе сванька плываць!
(Па-вашаму *плаваць*,
Ды не ваша справа).

Вандал Арлянскі

## Сентэнцыі Барыса Руско

* Дурань думку, якую не разумее, кіне ў касцёр.
* Нітка жыцця прадзецца болем.
* Завіляць хвастом і смерць патрапіць.
* Малаважна адкуль, але як дзьме.
* Дарога без мэты завядзе ў тупік.



*Малюнак Алега Карповіча*

## „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

Маці аглядае школьны бюлетэнь свайго сына:

— Горкая доля мне з табою: тут адно толькі заўвагі „Дрэнныя паводзіны”, „Дрэнныя паводзіны”... Ты павінен браць прыклад з бацькі!

— Ён жа ў турме сядзіць...

— Так, але яго выпусцяць за добрыя паводзіны.

* * *

У судзе:

— Ці абвінавачаны прызнаецца, што назваў кароваю сваю суседку?

— Яна пра гэта толькі дадумалася.

— Якім чынам?

— Яе дачку я назваў цялём.

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:

— Ці ты чула, што Франак ляжыць цяжка паранены ў бальніцы?

— Што ты скажаш! А я ж яшчэ ўчора бачыла яго з нейкаю бландзінкай у кафэ.

— Яго жонка таксама гэта бачыла.

* * *

— Мой муж — гэта анёл!

— І мой таксама не мужчына.

* * *

— Да чаго можна прыраўнаць нарачоную?

— Да бутэлькі добрага віна.

— А жонку?

— Да бутэлькі з-пад віна.

* * *

— Чаму так хутка віруеш, гэта ж павольны танец?..

— Ой, не! Не такі ён павольны, на пласцінцы выразна напісана: трыццаць тры абароты ў мінуту.

* * *

— Сёння знайшоў я на лузе чатыры падковы; што гэта можа абазначаць?

— Відаць конь вырашыў пахадзіць басанож.

* * *

Валэнса паслу Японіі:

— Вітаю прадстаўніка краіны квітнеючай вішні!

— А я вітаю прэзідэнта краіны квітнеючай ліпы.

* * *

Міністр Урбан наведаў мастацкі музей:

— Гэта Рубенс, гэта Выспянскі... — падказвае яму захавальнік.

— А гэта Пікасо?

— Не, пан міністр. Гэта люстра.

## Цешча і зяць

Прыйшла раз цешча к зяцю ў госці.
Але ж сярдзіты быў той зяць,
Меў у сабе ён многа злосці,
Не любіў ім патураць.
Маці са сваёй дачкою
Ў хаце гутарку вядзе.
Як жыццё тваё, Ануля,
Жыццё замужам ідзе?
Маладзіца зараз ў слёзы.
Ганіць мужыка, кляне.
А бадай яго занозы —
Замардуе ён мяне!
Рана будзіць да работы
І ганяе як слугу.
Мне ж рабіць няма ахвоты —
Так далей жыць не магу!
Плюнь, дачушка, кажа маці —
Чорт з работаю з усёй,
Варушыся ты, не стой.
Аб сябе ты дбай, дачушка,
Красату сваю глядзі.
І давай вучыць старая,
Як больш зяцю дапячы.
А зяць дзверы адкрывае.
Ну-ну, цешча давучы!
Схваціў цешчу зяць сярдзіты
Ды й у борану запрог.
Цягне борану старая,
Толькі пыл валіць з-пад ног.
Добра ўмела гаварыць ты —
Трэба й борану цягаць.
А ну, старая, а ну сівая —
Так на цешчу свішча зяць.
Выпраг цешчу зяць сярдзіты,
Цешча валіцца кулём,
Цераз поле, цераз жыта,
Бяжыць к дзеду перуном,
Ой, хутчэй, ты дзед збірайся,
Ідзі Анульку ратаваць!
Толькі сам хоць абаўляйся,
Бо то кат ў нас, не зяць!
Доўга слухаў, зубы сцяўшы,
Добра ўмела баба плесць.
Вось нарэшце, палку ўзяўшы,
Сам да зяця пайшоў цесць.
Зяць, убачыўшы здалёку,
Вуха к дзюрцы прылажыў,
Слухаў ён не шавялўшысь,
Што цесць жонцы гаварыў.
Не п'яніца ён і не карцёжнік,
І таксама не гультай.
Вось, жывіце дзеткі згодна
Ты ж язык свой прытрымай.
Вось, люблю я гэты рэчы
За дзвярыма крыкнуў зяць.
А за добрыя саветы —
Бацька, ты за сталом сядзь!
Пасадзіў за стол старога,
Жар, брат, баба каўбасу.
Пачакайце крыху, татка,
Я гарэлкі прынясу.
Запішчэлі ў печы скваркі,
Зазвінела скаварда,
З рук у рукі ходзяць чаркі —
Чэсць такая, што куда!
Прыходзь тата к нам у госці,
Зяця ты не забывай.
І прываліў яму на плечы
Двухпудовы каравай,
Ідзе стары дамоў — спявае,
Добра выпіў, закусіў,
Каравай той ледзь трымае —
Так яму плечы прыдушыў!
Баба рукі заламала,
Дзеда ўбачыўшы здалёк.
Я вось бораны цягала,
А ён з ярмом дамоў уцёк.

Запісала Валянціна Верамчук

## Сардэчныя ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Я сёлета канчаю падставоўку. Паўгода таму я закахалася ў хлопца з нашай школы, таксама з восьмага класа, але не з нашага. Быў верасень, усе вярнуліся з летняга адпачынку, былі загарэлыя і прыгожыя. І я спадабалася яму, хаця і раней ён паглядваў на мяне.

Мушу табе прызнацца, што гэта здарылася ўпершыню ў маім жыцці. Нешта кранулася ў маім сэрцы толькі цяпер, хаця і раней я ведала даволі многа хлопцаў.

Але цяпер, калі я па-сапраўднаму была закаханая, увесь свет мне здаваўся прыгожы і добры. Я б хацела не адыходзіць ад майго хлопца, быць, колькі можна, з ім, усюды хадзіць разам, размаўляць бясконца.

Спачатку ён быў мне адданы поўнасцю. Нават мала бываў у кампаніі сваіх сябрукоў, а ўсё са мною. Але праз нейкі час ён пачаў ад мяне аддаляцца. Пачаў больш часу прысвячаць баскетболу, які вельмі любіў. Калі я прыходзіла на матч, каб паглядзець, як ён гуляе, ён не звяртаў на мяне асаблівай увагі, а адносіўся да мяне, як і да іншых вучняў нашай школы. Не падыдзе, не абдыме, не цмокне ў шчаку, як спачатку гэта рабіў, а скажа, як і ўсім: „Выйграў!” Так і скажа: „выйграў, а не „выйгралі”, бо ж не гуляў у баскетбол адзін, а цэлай камандай. Неяк я раней такога эгаізму ў яго не заўважала.

Раней, калі ён хацеў схадзіць у кіно, то пытаўся: „Можа пойдзем на добры фільм?” Прычым фільм мог быць нават абы-які. Важна было сядзець у кіно побач, прытуліўшыся, а мая рука заўсёды ляжала ў яго руцэ. А цяпер ён мне паведамляе: „Іду ў кіно. Пойдзеш?” — і ў мяне такое адчуванне, што калі б я сказала, што не іду, дык ён бы нават уцешыўся, або, чаго лепшага, яшчэ пайшоў бы з кім іншым.

А часамі, падумай, Сэрцайка, я яго шукаю і не магу знайсці. Званю-званю яму, а бацькі адказваюць, што выйшаў. А куды? — Не ведаюць. Раней жа ён заўсёды мяне папярэджваў, дзе ён будзе.

Дарагое Сэрцайка, мне з гэтай прычыны вельмі сумна. Я ж яго не прасіла, каб мы „хадзілі”. Ён сам за мною бегаў, а ўжо ад верасня дык ад мяне не адыходзіў. Навошта мне гэта было б, калі б я ведала, што ён такі няшчыры. Я думала, што гэта ўжо на ўсё жыццё. Нават усё наперад прадумала: і якія школы пазаканчваем, і колькі дзяцей будзем мець, калі пажэнімся... А цяпер дык ужо сама не ведаю, што і думаць.

Пагляджу я на сваіх сябровак, дык некаторыя з іх маюць пастаянных хлопцаў, ужо больш як год з імі ходзяць — і ўсё добра. А ў мяне гэтага „добрага” было не больш года. Ці наша каханне канчаецца, скажы, Сэрцайка, бо ўжо ён не завіхаецца каля мяне, як калісьці, не шукае маёй кампаніі. Калі я ёсць — дык добра, калі няма — таксама можа быць, а мо і яшчэ лепш, бо тады можа скаліць зубы з іншымі дзяўчатамі.

Бася

Бася! Я думаю, што яго пачуццё ўжо скончылася. І няма на гэта рады. Тое, што я напішу, гэта будзе для цябе навучка на будучыню.

Хлопцы не прападаюць за дзяўчатамі, адданымі ім цалкам і поўнасцю. Яны, праўда, могуць гаварыць наадварот, але толькі тады, калі закаханыя і раўнуюць сваю дзяўчыну да іншага, калі баяцца, што дзяўчына можа ім здрадзіць.

А ты, відаць, заўзялася на гэтага хлопца, каб быў толькі з табою. Ён быў занадта ўпэўнены, што на іншага ты і не глянеш. Мог адносіцца да цябе, як хацеў, а ведаў, што і так ты будзеш яго шукаць. Адным словам, ты ў нейкай ступені сталася для яго цяжарам. Хлопцы любяць быць вольнымі, а прынамсі мець такое ўражанне, што яны вольныя.

Слухай, а мо варта яшчэ спрабаваць закруціцца каля нейкага ягонага сябра! А да яго будзь такая ж, як і ён да цябе. Нешта такое часам ратуе сітуацыю, аднак жа не заўсёды. Спрабаваць усё ж варта.

Сэрцайка